НЕЗАЛЕЖНАЯ ГАЗЕТА

№ 35 (776) 19 верасня 2012

# Наша Ніва

www.nn.by

ПЕРШАЯ БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЕТА

Заснаваная ў лістападзе 1906. Адноўленая ў маі 1991. Выдавец: Прыватнае прадпрыемства «Суродзічы». Выходзіць штотыднёва, серады


## «Пахавала адзінага сына, а зноў нарадзіць не дазваляюць»

Чаму жанчын пасля 50-ці асуджаюць на адзіноту?

Старонка 7.



## Колькі каштуе суседства з Вікторыяй Азаранкай?

Побач з лецішчам тэнісісткі №1 прадаецца дача.

Старонка 6.



# Пачалося датэрміновае галасаванне



BAJ.BY

На фота: збіты фотакарэспандэнт Associated Press Сяргей Грыц. Ён здымаў перадвыбарчы пікет моладзі, што раздавала боршч. Старонка 2.

Тэндэнцыі

## Ці запалаюць вогнішчы з «Гродназнаўства»?

**Андрэй Чарнякевіч** звольнены з універсітэта, кніга знікла з паліцаў.

14 верасня дацэнт Гродзенскага ўніверсітэта Андрэй Чарнякевіч атрымаў нечаканае смс-паведамленне. Яго запрашалі зайсці ў галоўны корпус ВНУ, каб азнаёміцца з загадам аб звальненні ды забраць працоўную кніжку. Чаму смс? Бо гісторык ляжаў у бальніцы і слухаўку не браў. А звольніць аднаго з аўтараў падручніка «Гродназнаўства», відаць, спяшаліся.

Ідэя адмысловага факультатыва «Гродназнаўства» для школьнікаў нарадзілася яшчэ на пачатку 2000-х. Пры канцы 2008 была зроблена першая версія, а ўжо ўвесну 2012 свет пабачыла шыкоўнае ілюстраванае выданне альбомнага фармату. Аўтарскі калектыў склалі найлепшыя гісторыкі і краязнаўцы, пераважна з Гродзенскага ўніверсітэта: прафесар, доктар гістарычных навук Вячаслаў Швед, прафесар, загадчык кафедры гісторыі Беларусі Святлана Марозава, археолаг Аляксандр Дабрыян, кандыдат гістарычных навук, дацэнт Віталь Карнялюк, краязнаўца Алесь Госцеў і кандыдат гістарычных навук, дацэнт Андрэй Чарнякевіч.

Шырока прайшлі прэзентацыі кнігі: ва ўніверсітэце, у былым Доме піянераў, у школах горада. Настаўнікі і дзеці былі ў захапленні. Аб з'яўленні кнігі ўрачыста адрапартавалі дзяржаўныя СМІ ды сайт аблвыканкама.

Працяг на старонцы 3.

Рэпартаж

### Масты праз 15 гадоў пасля «Дажынак»

Чым жыве рэгіён. **Старонка 5.**



Асоба

### Алесь Бяляцкі на вялікіх ростанях

25 верасня Бяляцкаму споўніцца 50 гадоў.

**Старонка 9.**



Пазіцыя

### Вольскага дастала

Музыка ахвяраваў выступам на «Камяніцы» дзеля канцэрта ў падтрымку палітвязняў.

**Старонка 11.**



Гісторыя

### Забойства Лявона Баразны

Пра таямнічую старонку мінулага піша Дзмітрый Гурневіч. **Старонкі 12—13.**



# Сяргей Грыц: Ударылі кулаком у правае вока, разбілі акуляры

**У Мінску разгромлены пікет кампаніі «Гавары праўду», на якім раздавалі боршч. Затрымалі і збілі журналістаў.**

«Я атрымаў удар кулаком у правае вока, пры гэтым мне разбілі акуляры», — расказаў «НН» фатограф Associated Press Сяргей Грыц. Яго жорстка затрымалі ў аўторак на пікеце актывістаў суполкі «Zмена» (моладзь з «Гавары праўду!»). Гэта здарылася каля ўніверсама «Фрунзенскі» ў Мінску. У пастарунак таксама трапілі тэлеаператар Аляксандр Баразенка, фотакарэспандэнты Васіль Фядосенка (Reuters), Таццяна Зянковіч (EPA) і Павел Падабед (БелаПАН), а таксама актывісты «Zмены» Аляксандр Арцыбашаў і Павел Вінаградаў. А ўсё таму, што хлопцы са «Zmenы» сімвалічна раздавалі боршч.

Гэтая страва набыла новы сэнс пасля таго, як старшыня Цэнтрвыбаркама на мінулых выбарах раіла жанчынам не выказваць сваёй пазіцыі публічна, а сядзець у хаце і варыць боршч.

«Груба павалаклі ў аўтобус. Усіх — пікетоўцаў і прэсу, — расказвае Грыц. — Вырвалі з рук апаратуру».

Па яго словах, у аўтобусе невядомыя ў цывільным адразу ж забралі тэлефоны. У раённым аддзяленні міліцыі журналіст правёў дзве гадзіны. «У мяне нічога ніхто не пытаў. Забралі пашпарт і, відавочна, самі даведаліся, хто я такі».

І яго, і калег адпусцілі без складання пратаколаў. Апаратуру яму вярнулі, але здымкі з акцыі выдалілі. У часе знаходжання рэпарцёраў у пастарунку кіраўніцтва мінскай міліцыі адмаўляла факт затрымання.

**Сямён Печанко**

## Цісканіна ў мінскім метро

**На «Кастрычніцкай» ледзь не падушыліся.**



У аўторак уранку ў нявопытнага машыніста заглух цягнік метро. У выніку рух цягнікоў забавіўся на 10 хвілін. А гэта было ранкам, у гадзіну пік. Людзей на перасадачнай станцыі «Кастрычніцкая» набілася столькі, што не было куды сахтупіць з эскалатара. Таўкліся так, што адна маладая жанчына аж упала на поручань і стала крычма крычаць. Эскалатар прыйшлося спыніць.

Малодка не пацярпела, супрацоўнікам станцыі ўдалося навесці парадак, а там і цягнік паехаў сваёй дарогай.

**Сяргей Гезгала**

## Уцякаючы ад кантралёраў, мама забылася ў тралейбусе 3-гадовую дачку

**Выпадак, у які цяжка паверыць, апісала «Советская Белоруссія».**

Заходзім. Раптам адна з пасажырак падскоквае і выбягае ў дзверы, што ўжо зачыняюцца. Тралейбус кратаецца. А побач з тым месцам, дзе сядзела жанчынка, каля акенца засталася... яе малая — на выгляд, годзікі тры ёй. Залапатала «мама», закруціла галоўкай... Вядома, усе сталі крычаць кіроўцу, каб экстранна спыніўся.

А матулі хоць бы што. Наздагналі. Ні пра якія талоны і праязныя ў кантралёраў мовы, зразумела, ужо не было... Псіхолагі сцвярджаюць, што мацярынскі інстынкт — адзін з самых моцных. Толькі, відаць, ёсць выняткі. Умоўны рэфлекс уцёкаў ад кантралёраў, выпрацаваны гадамі, аказаўся ў маладой жанчыны больш выяўлены. Рана ці позна яна б апамяталася, развярнулася і сама рынулася б за тралейбусам. Але чаго варта была гэтая здрада сваёй дачцэ!

Не ад дабра, мусіць, так дзейнічала мама. Мусіць, кожная капейка ў яе на ўліку, раз ашчаджае нават на талончыках.

## Прэм'ер Брытаніі звольніў свайго ката за прафнепрыдатнасць

Прэм'ер-міністр Вялікабрытаніі Дэвід Кэмеран стаміўся ад ляноты і бяздзейнасці «галоўнага мышалова» сваёй рэзідэнцыі на Даўнінг-стрыт — ката Лары, звольніў жывёліну з высокай пасады, піша The Daily Mail.

Цярпенне прэм'ер-міністра скончылася, калі ён застаў ката, калі той мірна спаў на крэсле, а ў гэты час па пакоі прабегла мыш. Кэмеран паспрабаваў разбудзіць улюбёнца і прымусіць яго прыступіць да сваіх прамых абавязкаў, але Лары толькі расплюшчыў адно вока, стомлена паглядзеў на гаспадара, «абуральна пазяхнуў» і зноў заснуў.

Пяцігадовы Лары быў прыняты на працу ў лютым 2011: сям'я прэм'ера ўзяла яго з найстарэйшага брытанскага прытулку для жывёл. Аднак з самага пачатку службы кар'ера ката склалася няўдала: яго не раз папракалі ў недастатковай стараннасці.

Зараз месца Лары на пасадзе «галоўнага мышалова» заняла кошка Фрэй канцлера казначэйства Вялікабрытаніі Джорджа Осбарна.

**АГ**



**Ведай нашых!**

### Гаўрыльчык і Гудзілін

Карэспандэнты «Нашай Нівы» Таццяна Гаўрыльчык і Сяргей Гудзілін аказаліся сярод пераможцаў конкурсу маладых фатографаў, арганізаванага Інстытутам Гётэ. Працы пераможцаў увойдуць у фотакнігу, прысвечаную сучаснай беларускай фатаграфіі.

## Мова — наша

Каб не забруджваць родную мову замежнымі словамі, прыдумаў днямі два наватворы:

1) прарэзвацель — грызунчык,
2) флікер — мігцелка.

Прапановы, водгукі? :)

**Аляксандр Чубрык, эканаміст, Мінск**

**Дасылайце нам свае моўныя знаходкі, слоўнічкі дыялетызмаў з Вашай малой радзімы, занатоўкі пра моўныя скарбы або, наадварот, памылкі. Мы ўсё гэта з радасцю надрукуем. Мэйл Рэдакцыі прosты: nn@nn.by. Іншыя кантакты ёсць на старонцы 16. А можна адпраўляць навіны і праз сайт NN.BY.**



## Сціcла

### Макей ляціць у Маскву

Там 19 верасня міністр замежных справаў Беларусі сустрэнецца са сваім расійскім калегам Сяргеем Лаўровым.

### Дзе Дашкевіч?

Да палітвязня на мінулым тыдні двойчы не дапусцілі адваката. Вядома, што лідара Маладога Фронту з Глыбоцкай турмы перавезлі ў віцебскі СІЗА №2. Але на сёння няма пэўнасці, ці выбыў ён на іншае месца адседкі, ці яшчэ не выбыў.

### Бабіна лета скончылася

Ад сярэдзіны тыдня ў Беларусі моцна пахаладае, чакаюцца вялікія дажджы.

### За экскурсіі «без атэстацыі» таксама пачнуць штрафаваць

Да красавіка 2013 плануецца падрыхтаваць нарматыўна-прававы акт. Ён будзе прадугледжваць адміністрацыйную адказнасць за правядзенне экскурсій без атэстацыі і парушэнні заканадаўства ў сферы турызму.

### Суд забараніў перадрукоўваць фатаграфіі Кейт Мідлтан



Французскі суд пастанавіў забараніць публікацыі фатаграфій напаўаголенай герцагіні Кембрыджскай. Пракуроры высвятляюць, ці ёсць падставы для крымінальнага абвінавачвання фатографу, які падпільнаваў і зняў Кейт топлес падчас адпачынку каралеўскай пары ў адным з французскіх замкаў.

**СГ**

## Дзе варта быць

### Мосар запрашае на дзень цвярозасці

У 2007 ксёндз Юозас Булька разам з прадстаўнікамі групаў ананімных алкаголікаў заснаваў у Мосары Алею цвярозасці, і цяпер у гэтай вёсцы пад Глыбокім штогод праводзіцца Дзень цвярозасці. Сёлета ён прыпадзе на 6 кастрычніка. Запрашаюць усіх, хто хоча вырвацца са шкоднай звычкі і хто ў сабе гэта перамог.

## Самае чытанае на nn.by за 12—18 верасня

1. Лукашэнку ўпершыню паказалі з акулярамі — фотафакт
2. Петрушэнка даў жару на дэбатах у Оршы — відэа
3. Якую назву для новай лукашэнкаўскай супергазеты прапанавалі б Вы?
4. Прадстаўнік Партыі БНФ: «Я просты рабочы, я вару каўбасу і я прынёс гэту каўбасу» — відэа
5. У Мінску разгромлены пікет кампаніі «Гавары праўду», затрыманыя і збітыя журналісты
6. Нашто «Газпрам» збірае інфармацыю пра беларускія недзяржаўныя СМІ?
7. Наша служба і апасна, і трудна: маладыя людзі здымаюць на відэа ўсе сустрэчы з выбарцамі — фота
8. Святло і цені Зянона Пазняка
9. Шабас працягваецца: у Гродне дацэнта звольнілі за кнігу
10. Афарызмы пра беларусаў ад Сяргея Гудзіліна

# Ці запалаюць вогнішчы з «Гродназнаўства»?


Андрэй Чарнякевіч.

АНДРЭЙ ЛЯЛЕШКА

Працяг са старонкі 1.

У хуткім часе асобнікі падручніка трапілі ў кнігарні «Кругагляд», «Веды», «Праметэй». Па цане 72 000 рублёў яе добра куплялі.

Два тыдні таму ў кнігарнях пабывалі асобы ў цывільным. Яны ж наведалі бібліятэкі горада, Інстытут павышэння кваліфікацыі... Кнігі зніклі з паліцаў. Апошні раз нешта падобнае ў Гродне адбывалася ў 1980-я. Тады адзін з аўтараў кніг серыі «Палымяныя рэвалюцыянеры» выехаў у Ізраіль і прыйшоў загад адклікаць ягоныя кнігі.

Са словаў дырэктара адной са школаў, не пасаромеліся запатрабаваць «для аналізу» нават спіс настаўнікаў, якія выкладаюць «гродназнаўства».

Потым чарга дайшла і да аўтараў: іх аднаго за адным пачалі выклікаць на «гутаркі». Супрацоўнікаў «органаў» цікавілі прадмова выдання, «канцэпцыя ілюстрацыяў», аўтарства апошніх частак, прысвечаных 1985—1991 гадам.

Хто даў загад пра такую акцыю, пакуль невядома.

«Крайнім» быў абраны Андрэй Чарнякевіч — выдатны гісторык з малодшага пакалення, адна з новых зорак беларускай навукі. Гісторыку ўлічылі нібыта некалькі спазненняў на заняткі. Цікава, што ў лютым Чарнякевіч правёў экскурсію па старым Гродне асабіста для старшыні аблвыканкама Шапіры. Пасля яе Шапіра адзначыў, што гэтым «быў зроблены крок насустрач» паміж уладамі ды гісторыкамі.

У той самы дзень, калі пра звальненне даведаўся Чарнякевіч, сілавікі адразу з некалькіх ведамстваў затрымалі рэдактара часопіса ARCHE Валера Булгакава падчас прэзентацыі. Яны канфіскавалі кніжкі незалежных выдавецтваў, якія ён прадаваў, а сам Булгакаў быў аб-вінавачаны ў «незаконнай прадпрымальніцкай дзейнасці» і адпушчаны да суда. Інцыдэнт адбыўся ўжо пры канцы імпрэзы, калі ў зале заставалася мала людзей. Выглядала, што зводная група падаткавікоў, міліцыі і спецслужбістаў палявала на прадаўцоў «Гродназнаўства», а Булгакаў проста прыехаў у Гродна «не ў той час».

**Алесь Кіркевіч, Гродна**

## Мала ў нас такіх падручнікаў

Што крамольнага ўгледзелі ў «Гродназнаўстве»?

У 340-старонкавым выданні з серыі «Гарадзенская бібліятэка» — гісторыя Места святога Губерта (алень, якога прысніў гэты святы, трапіў на герб горада над Нёманам), ад пачаткаў і да 1991.

Аўтары старанна выбралі самыя цікавыя факты і ўдала падабралі ілюстрацыі (канцэпцыю ілюстравання распрацавалі гісторык Эдвард Дмухоўскі і мастак Ян Лялевіч). Амаль на кожнай старонцы — звесткі, раней невядомыя шырокаму колу чытачоў: што Гродна было мураваным яшчэ ў XII стагоддзі, што Каложа атрымала сваю назву ад пскоўскага прыгарада, з якога Вітаўт перасяліў у Гродна палонных. А гісторыю незалежніцкага руху ў Гродне XX стагоддзя раней ніхто так добра не сістэматызаваў.



**Гродназнаўства. Гісторыя еўрапейскага горада.** — Гродна—Вроцлаў, 2012.

Тэкст падзелены на параграфы з тэмамі і заданнямі, каб па кнізе маглі займацца школьнікі. Аднак кніга, напісаная добрай мовай, лёгка ўспрымаецца і як цэльная гістарычная аповесць. Шматлікія дадаткі, выявы не даюць стаміцца ад аднастайнага чытання. Аўтары даюць для параўнання выявы Гродна на гравюрах еўрапейскіх майстроў розных часоў, дэманструюць, нароўні з партрэтамі гістарычных асобаў, здымкі простых гродзенцаў, каб чытач меў уяўленне пра атмасферу штодзённага жыцця горада. Ёсць нават настальгічныя налепкі ад гродзенскіх ліманадаў. Па багацці ілюстрацый «Гродназнаўства» дароўнівае «Краіне Беларусь» Арлова і Герасімовіча, па змястоўнасці ж складзеная на энтузіязме кніга цягне на прэмію міністэрстваў адукацыі і культуры. Бо напісаная і прафесійна, і з любоўю да аб'екта вывучэння.

Шал лукашэнкаўцаў маглі выклікаць тры моманты.

Па-першае, нацыянальная сімволіка на вокладцы, гісторыя нацыянальнага руху на старонках. Несумленныя гісторыкі выкідваюць іх, замоўчваюць, ва ўгоду кан'юнктуры, і іх гісторыя выходзіць вылегчанай, нецікавай.

Па-другое, увага да незалежніцкага руху, дзейнасці апазіцыі і нараджэння грамадзянскай супольнасці ў канцы 80-х. З гледзішча аўтараў, гэта былі працэсы гістарычнай важнасці. Апошні параграф сканчаецца ўзнёслай нотай абвяшчэння незалежнасці. Між тым афіцыйная гістарыяграфія бачыць значнасць у іншым — у абранні Аляксандра Лукашэнкі і ўсталяванні аўтарытарнага рэжыму. А ў «Гродназнаўстве» Лукашэнкі няма (і сапраўды, пустое месца ў гісторыі, падумае чытач).

Па-трэцяе, сама кніга як цэлае паказвае, што Гродна, Гарадзен, Горадня адвеку была часткай еўрапейскага кантэксту, горадам свабодаў, шматэтнічным. Кніга паказвае «вялікую панараму», тады як афіцыйная прапаганда аддае перавагу «зручным эпізодам» у гісторыі: «уз'яднанне» з Расіяй, губернскі час, 17 верасня, вайна. Можа, гэтая «еўрапейскасць» і напалохала цэнзараў, якія замест «Гісторыі еўрапейскага горада» хацелі б бачыць губернскую «Гісторыю аднаго горада», лаяльнага, стабільнага?

Але цэнзары няздольныя знішчыць кнігу. «Гродназнаўства» трапіла ў сотні сямейных бібліятэк і застанецца ўзорам краязнаўчага падручніка.

**Сяргей Мікулевіч**

## Валер Булгакаў: У Горадні спецслужбам дазваляецца больш, чым у Мінску

14 верасня прэзентацыя ў Гродне кнігі «Саветызацыя Заходняй Беларусі» Яна Шумскага **скончылася затрыманнем** галоўнага рэдактара ARCHE Валерыя Булгакава.

Затрыманне праводзілі падаткавікі сумесна з міліцыяй і супрацоўнікамі спецслужбаў. У Булгакава канфіскавалі каля 200 адзінак кніжнай прадукцыі, а таксама склалі пратакол за «нелегальную прадпрымальніцкую дзейнасць» — будзе суд.

**«Наша Ніва»: Было чаканне, што нешта падобнае здарыцца? Усё ж у той дзень звольнілі Андрэя Чарнякевіча, канфіскоўвалі падручнікі «Гродназнаўства».**

**Валер Булгакаў:** Пра Чарнякевіча даведаўся, калі прыехаў у Гродна. У прынцыпе, кожная паездка па краіне адбываецца з цяжкім сэрцам, з прадчуваннем, што нешта падобнае можа здарыцца. Але за два дні да гэтага ў Мінску ў кнігарні «Ў» прайшла прэзентацыя гэтай кнігі. Нічога не прадвяшчала ліха. Відавочна, што не мая персона была адрасатам гэтай актыўнасці, а гарадзенская супольнасць. Хачу адзначыць, што імпрэзы на Будзённага, 48а адбываюцца ўвесь час. І калі б там адбывалася імпрэза некага з мясцовых гісторыкаў, то справа магла быць і не заўважанай у Мінску.

**«НН»: Чаму вырашылі пайсці на пагром менавіта гродзенскага асяродку?**

**ВБ:** Ёсць некалькі фактараў. У гарадзе вельмі моцнае гуманітарнае асяроддзе. Фактычна ў краіне існуе дзве гістарычныя школы: мінская і гродзенская. У заходніх гарадах краіны — Гродне і Брэсце — большая канцэнтрацыя спецслужбаў, чым на Усходзе. Гэта тлумачыцца стыкам з Польшчай, Літвой, Украінай. Нагадаю, што другі гучны выпадак з ARCHE адбыўся якраз у Брэсце, калі мытнікі канфіскавалі нумары часопіса, пасля якога паўгода адбываўся працэс па абвінавачванні ARCHE ў экстрэмізме. Яшчэ адзін момант, што на выбарах 1994 працэнт галасоў за Лукашэнку ў Гродзенскай вобласці быў найменшы ў краіне. З Гродна выйшлі такія моцныя апазіцыйныя палітыкі, як Домаш і Мілінкевіч. Пасля свайго «адпушчэння» (не магу казаць вызвалення) з падаткавай я гаварыў з журналістам Андрэем Пачобутам, які кажа, што зачысткі дасягнулі такой сілы, што закранаюць не толькі палітыку, але і культуру. У Гродне спецслужбам заўсёды дазвалялася больш, чым у Мінску да 19 снежня 2010 —ператрусы, арышты, затрыманні. Характэрныя былі справы Мажэйкі, Маркевіча, Леванеўскага, Васільева, Пачобута. Іх каралі за слова, а не за дзеянне.

**Гутарыў Зміцер Панкавец**

# Беларусь — адзіная краіна ў Еўропе, дзе ёсць безальтэрнатыўныя акругі

**БНФ і АГП з выбараў зняліся, «Гавары праўду» ідзе да канца.**

У суботу прайшлі з'езды адразу дзвюх партый — Беларускага народнага фронту і Аб'яднанай грамадзянскай партыі. Пытанне на абмеркаванні стаяла адно: ці браць удзел у выбарах далей?

У шэрагах АГП дэбатаў не было. Дэлегаты аднагалосна вырашылі здымацца. «З'езд прайшоў у найлепшых традыцыях з'ездаў КПСС, — жартуе лідар лібералаў Анатоль Лябедзька. — Слядоў пабояў ні на кім не знойдзеце, гвалтам нікога не прымушалі».

Менавіта АГП ад самага пачатку парламенцкай кампаніі прапанавала «сцэнар абмежаванага ўдзелу». У выніку ён атрымаўся эфектыўным.

Кандыдаты выкарысталі магчымасць для агітацыі на тэлебачанні і ў дзяржаўных газетах, для распаўсюду ўлётак, але ў апошні момант адмовіліся, каб іх прозвішчы былі ўнесеныя ў выбарчыя бюлетэні.

БНФ пайшоў тым самым шляхам. Праўда, у гэтай партыі назіраліся рознагалоссі. Напрыклад, не хацеў здымацца доктар са Слоніма Іван Шэга. Ён верыў, што ёсць шанец перамагчы. «Да мяне прыходзілі людзі з улады, прасілі, каб не здымаўся», — казаў Шэга.

Валеры Каранкевіч з Хоцімска прадстаўляе не толькі БНФ, але і «Гавары праўду». Ён таксама здымацца не хоча. Было яшчэ некалькі такіх кандыдатаў.

На з'езд БНФ нават прыйшоў прадстаўнік «Справядлівага свету» Алег Квітко, агітаваць за ўдзел. Але яго ледзь не пагналі ў шыю: якія выбары, чалавеча?

Гучалі прапановы пакінуць некалькіх кандыдатаў ад партыі, каб праверыць рэйтынг БНФ. Але з'езд усё ж пастанавіў, што здымацца трэба ўсім.

У выніку ад удзелу ў выбарах адмовіліся 65 кандыдатаў (35 ад АГП і 30 ад БНФ), што складае блізу 15% ад агульнай колькасці. Безальтэрнатыўнымі сталі 16 акругаў са 110.

Рашэнне дзвюх найбуйнейшых партый выклікала нервовую рэакцыю ў лукашэнкаўцаў. Напрыклад, кіраўнік цэнтра ЕСООМ Сяргей Мусіенка прапанаваў болей ніколі не рэгістраваць тых кандыдатаў, што зняліся з выбараў.

Затое грамадзянская кампанія «Гавары праўду» будзе ўдзельнічаць у выбарах да канца. Так вырашылі кандыдаты, што засталіся ў кампаніі. У «ГП» засталося 10 вылучэнцаў. Варта адзначыць, што пяцёра з іх уваходзяць у БСДП, яшчэ адзін (Каранкевіч) — у БНФ. Чацвёра беспартыйныя.

**Зміцер Панкавец**




СЯРГЕЙ ГУДЗІЛІН

**Актывісты «Альтэрнатывы» правялі перадвыбарчы пікет-інсталяцыю ў пераходзе на плошчы Якуба Коласа.**

**Анекдот ад кандыдата Крыжаноўскага**

Кандыдат у дэпутаты раздае інтэрв'ю журналістам. У яго пытаюцца:

— Скажыце, калі ласка, а навошта вы ідзяце ў парламент?

— Бо ў нас распуста, п'янства, гультайства.

— Вы хочаце з гэтым змагацца?

— Не, я хачу ў гэтым удзельнічаць.

## Здымаецца не толькі апазіцыя

**У Брэсце вызначыліся з кандыдатамі ад улады.**

У Брэсцкай-Цэнтральнай акрузе ў дэпутаты ішлі дырэктар філіі «Белдзяржстраха» па вобласці Іван Башчук і галоўны доктар мясцовай бальніцы Валянцін Мілашэўскі. Застаўся толькі другі, Башчук з выбараў зняўся.

У Брэсцкай-Усходняй змагаліся дэпутатка Ларыса Багдановіч і прарэктар БрДТУ Вячаслаў Драган. Прарэктар з выбараў зняўся.

У Брэсцкай-Памежнай — вайсковы камісар Уладзімір Базанаў і дырэктар цэнтра сацыяльнага абслугоўвання Святлана Міхайлоўская. Цяпер ад улады застаецца толькі Базанаў.

У Капылі былі зарэгістраваныя начальніца аддзела моладзі райвыканкама Наталля Гарбацэвіч і старшыня Клецкага райвыканкама Анатоль Бойка. Але маладзейшая кандыдатка вырашыла (ці за яе вырашылі) пачакаць з мандатамі.

**ЗП**

## Андрэй Юркоў: Нехта павінен рабіць



**Андрэй Юркоў**

38 гадоў. Эканаміст-менеджар (скончыў БДЭУ), антыкрызісны ўпраўляючы (Інстытут прыватызацыі і менеджменту). Працуе галоўным спецыялістам па маркетынгу РУП «Вучгас БДСГА». Працаваў на Горацкім масласырзаводзе (намеснік дырэктара, начальнік аддзела забеспячэння і збыту), затым — у племсаўгасе імя Чкалава Горацкага раёна (галоўны эканаміст, намеснік дырэктара па камерцыйных пытаннях). Гадуе дзвюх дачок — Дар'ю і Яніну.

Адным з нямногіх незалежных кандыдатаў, чыё імя будзе ў бюлетэнях для галасавання, стане Андрэй Юркоў з Горак.

**«Наша Ніва»: Вы балатаваліся ў 2004, у 2008, навошта трэці раз? Двух не хапіла?**

**Андрэй Юркоў:** Тут можа і пяці, і дзесяці не хопіць. Нехта павінен гэту справу рабіць. Калі б знайшоўся нехта іншы замест мяне, з радасцю бы перадаў эстафету.

**«НН»: А як жа байкот?**

**АЮ:** Не бачу сэнсу. У Горках не гатовы да яго. Нават калі адміністрацыйны рэсурс не будуць выкарыстоўваць, дык яўка ў нашым рэгіёне складзе 50—60%. Самае вялікае — гэта чацвёртая частка ад тых, з кім я размаўляў падчас збору подпісаў, гаварылі, што на выбары не пойдуць. У дадатак я і мая каманда пры зборы подпісаў і на ўсіх сустрэчах заклікалі людзей ісці назіральнікамі. Бо шмат людзей верыць камісіям. Людзі лічаць, што, калі нават усе знаёмыя прагаласавалі, а кандыдат не выйграў, значыцца, большасць была за іншага чалавека.

**«НН»: Якая мэта Вашай кампаніі?**

**АЮ:** Тысячы людзей атрымалі агітацыйныя матэрыялы, паслухалі мае выступы па ТБ і радыё, задумаліся пра тое, што робіцца ў краіне. Пачулі ідэі, альтэрнатыўныя сённяшняй уладзе. Гэтыя людзі не гатовы да прамога пратэсту, але гэта яны нашы патэнцыйныя прыхільнікі.

Мы абышлі болей за 4000 кватэраў, дзе за мяне падпісалася каля 2800 чалавек. На сустрэчах са мной пабывала болей за 500 чалавек. Тры галоўныя сустрэчы адбудуцца перад самімі выбарамі. Людзі ж не ацэньваюць, хто разумны, а хто дурны. Яны проста эмацыйна бачаць, хто кажа праўду, а хто прапануе песні са старой пласцінкі.

**«НН»: Выбары закончацца, што далей?**

**АЮ:** Невядома, якія для мяне будуць наступствы. Усё-ткі ў мяне добрая праца... Калі не будзе неадэкватнай рэакцыі, дык буду і далей займаць актыўную грамадскую пазіцыю. Пасля выбараў 2008 года некалькі месяцаў мне ішлі тэлефанаванні: вы ж наш дэпутат, дапамагайце ў вырашэнні нашых праблемаў. Тады ці імпэту, ці розуму не хапіла за гэта ўхапіцца. Калі такое будзе і зараз, дык трэба будзе прыкласці высілкі, каб дапамагаць людзям.

**Гутарыў Ілля Заранок**

### Сцісла

**У Оршы галасаваць запрасілі нябожчыкаў**

Запрашальнікі даслалі на імёны людзей, якія даўно не жывуць. Выглядае, што спісы не вывяралі. Прычым галасаваць іх клічуць не 23 верасня, а 27-га. Прыйшло запрашэнне і на імя палітвязня Алеся Бяляцкага, яго просяць прыйсці на ўчастак у Мінску.

**Улёткі ўладнага кандыдата раздаюць дактары «хуткай»**

Старшыня Клецкага райвыканкама Анатоль Бойка знайшоў арыгінальны спосаб распаўсюджвання сваіх агітацыйных улётак. Медыкі «хуткай дапамогі» раздаюць іх пацыентам і нават мінакам. Пра гэта расказаў «НН» мясцовы жыхар Віктар Дашкевіч.

**Не пусцілі 33 тэлезвароты ад АГП**

У асноўным праз тое, што кандыдаты ад партыі заклікалі да байкоту выбараў.

**У Магілёве на сустрэчу з кандыдатам выбарцы не прыйшлі**

Мерапрыемства мусіла адбыцца ў панядзелак у Палацы культуры чыгуначнікаў. На ёй збіраліся кандыдаты па акрузе №84. Але не прыйшоў ніводзін выбаршчык.

**ЗП**

# Масты: што далі гораду «Дажынкі»?

**Праз 15 гадоў пасля свята капітальны рамонт горада зроблены нанову.**

У 1997 «Дажынкі» праходзілі ў Мастах. Гэта цяпер дзяржава арганізуе штогадовыя шматмільённыя святы, якія кардынальна змяняюць выгляд райцэнтраў, а пасля гадамі вісяць цяжарам на бюджэтах усіх узроўняў, але так было не заўсёды.

## Сціплае свята

Першыя «Дажынкі» ў 1996 экспромтам прымаў Столін. Падрыхтоўка да свята заняла паўтара месяца, а выдзеленых раённым бюджэтам грошай хапіла толькі на касметычны рамонт некалькіх будынкаў. Праз год часу на падрыхтоўку таксама было катастрафічна мала. Упершыню мясцовая раённая газета праанансавала свята толькі ў пачатку ліпеня. І ўжо да сярэдзіны верасня гораду ўдалося асвоіць 15 мільярдаў рублёў. Калі пералічыць у даляры, агулам атрымліваецца каля $500 тысяч. Цяжка параўнаць гэтую суму са $110 мільёнамі, якія трацяць сёлета у Горках.

## Памяць пра «Дажынкі»

У Мастах грошы пайшлі на тое, каб аднавіць фасады цэнтральных адміністрацыйных будынкаў і жылых дамоў, пашырыць Савецкую вуліцу, памяняць на ёй асфальт, а таксама прывесці ў прыстойны выгляд аўтастанцыю. Ці памятаюць мастоўцы «Дажынкі» пятнаццацігадовай даўніны? «Канечне! — расплываецца ў шчаслівай настальгічнай усмешцы бабулька. — Усё тады зрабілі прыгожым, вялікі канцэрт быў. Усе сабраліся на плошчы, нават Лукашэнка прыехаў!» Падобная рэакцыя на ўспамін пра «Дажынкі» і ў маладых людзей, якія сустракалі свята дзецьмі. Незадаволеных не было, перакананыя яны.

Кіраўнік дзяржавы тады раздаў дванаццаць «Жыгулёў» — па двое на кожную вобласць. Як расказваюць, іх раздача абярнулася канфузам — машыны не прыехалі ў патрэбны час, бо прэзідэнцкая ахова шукала ў іх выбухоўку. Зрэшты, як узгадваюць жыхары, ніхто з мастоўцаў так і не атрымаў ключы ад аўто. З прызоў мясцовым дасталіся толькі тэлевізары, якімі ўзнагародзілі двух кіроўцаў.

## Падарунак на пяцігодку

Ад «дажынкавага» рамонту ў Мастах некранутым не засталося амаль нічога, хіба што аднолькавы сайдынг на ўсіх балконах цэнтральных пяціпавярховікаў. Сайдынг быў пакладзены абы-як, і з гэтым ужо нічога не паробіш. Час ад часу яго падфарбоўваюць, але агульнай карціны гэта не змяняе.

За 15 гадоў горад паспеў перажыць некалькі юбілеяў. А на кожны з іх, згодна з савецкай завядзёнкай, мастоўцы мусяць атрымаць нейкі «падарунак» ад уладаў. Напрыклад, летась, на 525-годдзе Мастоў, была ўрачыста адкрытая абноўленая аўтастанцыя — папярэдні раз да яе якраз даходзілі рукі падчас «Дажынак». А цяпер прыйшла чарга чыгуначнага вакзала, фактычна адзінага дарэвалюцыйнага будынка ў Мастах. Яго маштабная рэканструкцыя ў поўным разгары.

## Па еўрапейскіх стандартах

Аднак самы сучасны будынак у горадзе — мясцовы камунальны гатэль з неарыгінальнай назвай «Масты». Ён выглядае ўзорным, асабліва ў параўнанні з гасцініцамі іншых райцэнтраў.

Падчас «Дажынак» на яго не хапіла ні грошай, ні часу. А адкрыўся ён пасля рэканструкцыі сёлета. Больш за 30 дагледжаных нумароў з новай тэхнікай, мэбляй і санвузламі нясорамна паказаць замежнікам. Па словах адміністратаркі, якая, дарэчы, праходзіла стажыроўку ў аўстрыйскім гатэлі, у будныя дні знайсці свабоднае месца для начлегу бывае складана. Хоць цэны за пражыванне немаленькія. Аднамясцовы нумар каштуе каля 130 тысяч рублёў, двухмясцовы — пад 200 тысяч. А вось за двухпакаёвы люкс для маладажонаў давядзецца аддаць 340 тысяч рублёў. Шкада, што камунальнікі не гоняцца за «зоркамі», інакш бы свае тры зоркі «Масты» маглі б адстаяць.


Ленін у Мастах пазірае на драўляныя хаткі. На цяперашніх «Дажынках» іх бы ў такім выглядзе не пакінулі.



«Дажынскаўская» амбулаторыя ў Вялікай Рагозніцы стала цэнтрам аграгарадка.


Для беларускіх раённых гасцініц фае выглядае вельмі смела.


Па паўтара дзясятка талерак на адным доме — не дзіва для Мастоў.

## Ці выжыве пацыент?

У гатэлі часта жывуць камандзіровачныя чэхі і палякі, але найчасцей — немцы, расказвае адміністратарка «Мастоў». Адкуль яны ў горадзе? Рэч у тым, што мясцовае горадаўтваральнае прадпрыемства, кампанія «Мастоўдрэў», будуе новы цэх па вытворчасці драўнянавалакністых плітаў. Абсталяванне тут будзе стаяць нямецкае, таму і працуюць заходнія інжынеры. Інвестыцыйны праект пацягнуў ажно на 100 мільёнаў еўра, грошы ўскладчыну далі немцы і «Беларусбанк». Калі і гэта не дапаможа прадпрыемству выйсці на сталы прыбытак, на ім можна будзе фактычна паставіць крыж. У адрозненне ад большасці іншых беларускіх фанерных заводаў і мэблевых фабрык, «Мастоўдрэў» так і не здолеў паказаць вялікую прыбытковасць. Хоць апошнія гады сітуацыя і стала нібыта наладжвацца — летась прадпрыемства зарабіла $400 тысяч, пазалетась — $330 тысяч.

Але з такімі фінансавымі паказчыкамі «Мастоўдрэў», на якім працуе дзве тысячы чалавек, нават саступіў раённае першынство Рагозніцкаму крухмальнаму заводу. Там прадпрыемства, якое плаціць зарплату толькі 50 супрацоўнікам, здолела зарабіць за год $660 тысяч.

## Файны млын

Залежнасць горада ад «Мастоўдрэва» працягвае расці. Прадпрыемства набірае новых рабочых, а вось колькасць насельніцтва Мастоў пастаянна змяншаецца. У горадзе жыве каля 16 тысяч чалавек, працаздольных з іх, як і па ўсёй Беларусі, палова.

Успамінамі пра «Дажынкі» падзяліўся і Алесь Зарэмбюк, былы дэпутат Мастоўскага гарсавета, а цяпер кіраўнік Беларускага дома ў Варшаве: «Рамонтам быў ахоплены ўвесь горад. Як пасля аказалася, ён быў зроблены абы-як, таму і пратрымаўся гадоў пяць.

Праўда, на беразе Нёмана пабудавалі файны млын, які яшчэ доўгія 10 гадоў служыў сцэнай і добрым месцам для мясцовых канцэртаў і ўрачыстасцяў.

Былі і ўлёткі БНФ, былі і амапаўцы якія расшуквалі, хто распаўсюджваў агітацыйную прадукцыю. Ды і горад перад «Дажынкамі» размалявалі. Трафарэты ў выглядзе вядомай асобы і асацыяцыя з фігай».

## Падазроная песня

...«Дажынкі-1997» праходзілі не толькі ў Мастах, але і ў суседніх вёсках. У пошуках некранутага з часоў свята рамонту рушым у каталіцкую Вялікую Рагозніцу, якая нядаўна стала аграгарадком. Тут Лукашэнка адкрываў на «Дажынках» амбулаторыю. Мясцовыя жыхары расказваюць звязаную з гэтым смешную гісторыю. Лукашэнку сустракалі ўрачыста, вядомай польскай песняй «Нех жые сто лят». Раптам кіраўнік дзяржавы спахмурнеў, напружыўся — не зразумеў польскія словы. І толькі калі яму растлумачылі, чаго зычаць вяскоўцы, палагаднеў і загаварыў з людзьмі.

А двухпавярховы цагляны будынак стаіць дагэтуль, стаўшы цэнтрам жыцця гэтага паспяховага аграгарадка. Апроч амбулаторыі, месца хапіла сталовай, прадуктовай краме і нават Дому культуры. І тут пра «Дажынкі» ў мясцовых жыхароў засталіся самыя пазітыўныя ўспаміны.

**Ягор Марціновіч**

# Колькі каштуе суседства з Вікторыяй Азаранкай?

Побач з лецішчам тэнісісткі №1 **прадаецца дача**.

Жыхары сталіцы імкнуцца ў вёскі. Калі не на пастаяннае месца жыхарства, то хаця б набыць домік для паездак на выхадныя. Галоўны накірунак — Валожыншчына (Ракаў, Івянец). Але селяцца і ў іншы бок — каля Вілейскага вадасховішча. Карэспандэнт «НН» скіраваўся ў вёскі, што ляжаць уздоўж паўночнага берага гэтага найбольшага вадаёма Беларусі, каб паглядзець, якія палацы там будуюць сабе мінчукі.

### Сосенка-сіці

Да вілейскай Сосенкі ад Мінска 85 км. Вадасховішча ў гэтым месцы не самае шырокае.

На беразе пры пад'ездзе ўзвышаецца парачка вялікіх катэджаў.

На дарожным знаку нейкі свавольнік дапісаў з памылкай «Сосенка-sity». Да горада, канечне, вёсцы далёка. Але вось па цэнах на дамы зраўнаецца нават з мінскімі аднапакаёўкамі.

Аб'язджаем вуліцы. Старыя дамы чаргуюцца з новымі. Але вось тых, што можна назваць катэджамі, малавата. Спыняемся каля бабці. Ці прадае хто дом тут. «Адзін стары — развальваецца. А на суседняй вуліцы — надта дарагі. Нахвальвае суседзяў-мінчукоў, што купілі лецішча праз дарогу.

Едзем паглядзець дамы. Першая хата сапраўды ў дрэнным стане. Зразумела, што галоўнае тут — зямля.

«Дарагі» дом аказваецца вялізным, на падворку яшчэ лазня — і ніякіх прагнілых хлявоў. Дом цалкам абабіты сайдынгам, што зусім не прываблівае. Затое ўнутры ўсё даведзена да ладу. Найбольш уражвае кухня. Яна не меншая за 20 «квадратаў» . Крыху меншы па памерах санвузел. На элітарнасць дома — незразумелае вясковаму жыхару прыстасаванне — бідэ. «Адразу скажу пра цану: 50 тысяч даляраў», — кажа суседка, якая глядзіць дом. Не заўважыўшы на нашых тварах ні кроплі разгубленасці, праводзіць па ўсіх кутках. Тут яшчэ тры пакоі. Пры патрэбе можна зрабіць жылым другі паверх. «Вада пампуецца са студні. Але калі надумаеце пакупляць, трэ будзе двойчы ваду спусціць — застаялася».

Калі развітваемся, жанчына раіць больш нічога не шукаць. Маўляў, дарэмны занятак. «На першай берагавой лініі вы нічога ўжо не знойдзеце пад продаж. Ды ўвогуле, усё, што прадавалася ў вёсцы, даўно выкупілі мінчукі».

Але ўсё-ткі дом за якіх паўсотні метраў ад вады знаходзім. «Вы яшчэ ў майго хросніка паглядзіце, — далучаецца да размовы бабулька на вуліцы. — У яго дом з іншага боку — акурат каля вады». А праз якія дваццаць метраў нас гукае іншая кабета (яна чула размову): «Вы на дом не глядзіце: гады 3-4 яго не можа той пляменнік прадаць. Дорага просіць — 60 тысяч даляраў».



«Сціплы дамок у яе», — кажуць вяскоўцы

Дом Азаранкі не схаваны за высокім плотам.



Сосенка. Вяскоўцы не ведаюць нават, хто жыве ў такіх катэджах з выхадам да вады.




Дачнікаў заклікаюць да парадку.

### Сціплы дом Азаранкаў

Далей кіруемся ў вёску Рабунь. Ад Сосенкі гэта кіламетраў шэсць. Каля крамы сустракаем двух вяскоўцаў. Расказваем легенду, што шукаем дом для бацькоў. «Я прадаю. Магу паказаць», — дзядзька сядае на ровар і едзе папераддзе нас. Дом вялікі, участак — 40 сотак. Шмат гаспадарчых пабудоў, якія, праўда, трэба яшчэ правіць. І цана гэтага — 30 тысяч даляраў.

«Тут у вас, кажуць, жыве тэнісістка?» — пытаюся нібы не ў тэме. Дзядзька ўсміхаецца і хітае галавой. «Але сціплы дамок у яе. Ды і сама раз ці два прыязджала толькі — бацькі больш». Дарога да дома разбітая. І як тут на сваім вішнёвым «Паршэ» ездзіць тэнісістка №1? Дом Азаранкаў і сапраўды сціплы. Але ўсё акуратна і з густам, не схавана за высокім плотам. Праходзімся побач. На суседстве з Азаранкамі на доме вісіць абвестка: «Прадаецца».

Якая цана суседства з Вікторыяй? Сума не ўказаная. Затое пазначаны нумары тэлефонаў гаспадароў. Тэлефануем. Жанчына адказвае, што гатовы прадаць за 10 тысяч даляраў. Можна згандлявацца і за менш. Дом стаіць на надзеле ў дзесяць сотак. Стан яго не крытычны, але блізкі да таго.



Стаць суседам тэнісісткі не так і дорага. Дорага дом давесці да ладу.

### Дом па цане новай «Таёты»

Да вёскі Чыжэвічы ад Мінска будзе амаль 100 км. На ўездзе сустракаем джып з мінскімі нумарамі. Усё-ткі дабіраюцца і сюды мінчукі. Але расчароўваемся, калі бачым першыя дамы — яны ніяк не сведчаць пра заможнасць гаспадароў.

Падыходзім да бабулек, што сядзяць пад высокай грушай. Пытаемся, ці прадаецца які з дамоў. Яны паказваюць на падворак насупраць. Дом закінуты. А гаспадары хочуць за яго 25 тысяч даляраў — як за новую «Таёту Каролу». Падыходзіць да яго нават не хочацца. І бабулькі скіроўваюць на іншы падворак. Там акурат з Украіны прыехаў гаспадар.

Анатоль — беларус. Але ажаніўся з кіеўкай і прыняў украінскае грамадзянства. Цяпер вось зноў атрымаў беларускае і афармляе нашу пенсію. Хоча з жонкай набыць кватэру ў Маладзечне альбо Мінску. Кажа, што «красці ва Украіне лепш, а ў сацыяльным плане — у Беларусі лепш».

За дом хоча 21 тысячу даляраў. Ён візуальна лепшы, чым папярэдні. Хаця працы з ім шмат. У дадатак у двары няма сваёй студні. І ўсе выгоды, зразумела, на вуліцы. Надзел — стандартныя 15 сотак. Калі ж развіталіся з Анатолем, падышоў вясковец. Ён сказаў, што гэты дом ужо гадоў пятнаццаць як выстаўлены на продаж. Галоўны мінус, відаць, што да вадасховішча тут метраў на 300 далей, чым у іншых вёсках.

**Сяргей Макарэвіч**

## Сціслa

### Мясніковіч: «Прарыўных праектаў вельмі мала»

Прэм'ер-міністр запатрабаваў накіроўваць сродкі ў ходзе мадэрнізацыі ў эфектыўныя праекты. Агучана гэта было на пасяджэнні Саўміна.

### Землі пад Мінскам усё ж аддадуць Катару?

У інтэрнэце апублікаваная копія распараджэння Мінскага аблвыканкама пад грыфам «для службовага карыстання» («дск»). З дакумента вынікае, што ўлады гатовы выдзеліць краіне Катар зямлю для будаўніцтва катэджа і паляўнічага вальера. У прэсслужбе Лукашэнкі не каментуюць сапраўднасць дакумента.

### Памер дапамогі на дзіця вырасце на 50%

Цяпер памер гэтай дапамогі складае 100% бюджэту пражытачнага мінімуму ў сярэднім на душу насельніцтва (843 тысячы 870 рублёў).

### Будаўніцтва Астравецкай АЭС пачнецца ў чэрвені 2013

Паведамляецца, што цяпер на будаўнічай пляцоўцы ідуць работы па распрацоўцы катлавана энергаблока № 1.

### Аб'ём інвестыцый у асноўны капітал знізіўся на 16%

У студзені-жніўні 2012 выкарыстана 85,8 трыльёна рублёў інвестыцый у асноўны капітал, што ў супастаўных цэнах на 15,9% менш, чым за аналагічны перыяд летась.

ЗП

# «Пахавала адзінага сына, а зноў нарадзіць не дазваляюць»

Чаму жанчын пасля 50-ці **асуджаюць на адзіноту**?

### Смерць у бальніцы

«Гэта апошняе фота — сын на вяселлі ў сябра», — паказвае здымак высачэзнага юнака жыхарка Мазыра Антаніна Сопат. Яе сына Вадзіма не стала ў кастрычніку 2009. Яна б так хацела новае дзіця. Але ў якія сцены яна ні білася — без выніку. І пытанне — у адной норме закона.

Вадзіму ўвечары раптоўна стала дрэнна. Папрасіў сяброўку выклікаць «хуткую дапамогу». Дзяўчына тройчы выбягала на вуліцу, каб сустрэць медыкаў, а іх усё не было. Калі ж яны нарэшце прыехалі, Вадзіма давялося выносіць на руках — рухацца сам ён ужо не мог. А на раніцу Антаніне Аляксандраўне патэлефанавалі са страшным паведамленнем: сын нежывы.

У бальніцы жанчыне не паказвалі адразу цела. Праз нейкую ці то расхлябанасць, ці то разладжанасць сістэмы яе «ганялі» ад рэанімацыі да морга. З аднаго аддзялення накіроўвалі ў другое, і так па коле. Маўляў, у іх яго няма. Дактары не маглі сказаць, і ад чаго памёр 27-гадовы малады чалавек. Маўляў, прычына не ўстаноўлена. «Але ж гэта, як у Афганістане: знік без вестак», — адзначае жанчына. У выніку толькі праз 20 дзён яна атрымала даведку з прычынай смерці сына: сардэчна-лёгачная недастатковасць. Антаніне Аляксандраўне выдалі эпікрыз, у якім пазначана, што сыну рабілі пункцыю (пракол грудной клеткі) з левага боку. Вадзім да гэтага перанёс дзве аперацыі з пнеўматораксам (скапленне паветра альбо газу ў плеўральнай поласці). Але праблем з сэрцам у яго не было. І жанчына не выключае, што маглі і зачапіць выпадкова.

Вадзіма жанчына пахавала. Даказаць віну медыкаў яна не змагла, у пракуратуры слухаць яе не хацелі.

Праз некаторы час, калі ўбачыла закон аб трансплантalогіі, падумала пра іншае. Згодна з законам, чалавек пасля смерці з'яўляецца патэнцыйным донарам органаў і тканак, калі пры жыцці ён не падпісаў адмову (альбо адразу пасля смерці пра гэта не заявілі жонка ці бацькі). Падштурхнулі да такой думкі і словы доктара, які праз нейкі час пасля смерці спытаўся, пахавала яна сына ці крэміравала. Жанчына не выключае, што сына выкарысталі ў якасці донара. Аднак крымінальнай справы няма. Таму і эксгумацыю ёй правесці не дазволілі.

Такое перажыла гэтая дужая, з высакароднымі рысамі аблічча жанчына. Нават ворагу не пажадаеш.

### Усынаўленню — не, ЭКА — не

Сына вярнуць немагчыма. Са смерцю Вадзіма жанчына страціла і сэнс жыцця. З блізкіх у яе засталася толькі 75-гадовая мама. «Як жа жанчыне без дзяцей?» — сама сабе думала Антаніна Аляксандраўна. Таму рашылася на ўсынаўленне. Не дазволілі.

Па заканадаўстве існуе ўзроставы цэнз: розніца ў гадах паміж дзіцем і новымі бацькамі не можа быць большай за 45 гадоў. Жанчыне ўжо 57. А 12-гадовых дзяцей для ўсынаўлення практычна няма. Дый гэта ўжо падлетак, які не прывыжаецца да цябе. Праўда, Антаніна Сопат атрымлівае невялікую пенсію. Але яна запэўнівае, што дзіця жыло б не горш, чым у дзетдоме. «Мне ж да пенсіі будуць даплачваць як маці-адзіночцы».

Жанчына вучыла сына на платным аддзяленні ва ўніверсітэце, пабудавала для яго кватэру. Кажа, што жытло засталося б і іншаму дзіцяці (свая кватэра ёсць і ў мамы Антаніны). З гэтай нагоды звярталіся да яе і з цынічнымі прапановамі. Прасілі прапісацца на тую жылплошчу, а ў знак удзячнасці абяцалі даглядаць жанчыну да смерці.

Раз нельга ўсынавіць, Антаніна Аляксандраўна рашылася на штучнае апладненне. У маі 2011 звярнулася з такой просьбай у Міністэрства аховы здароўя. «Мяне паклалі ў Рэспубліканскі навукова-практычны цэнтр «Маці і дзіця». Абследавалі бясплатна і сказалі, што гарантуюць на 80 працэнтаў, што змагу вынасіць дзіця». А далей жанчыне за ўсё прапанавалі плаціць. Грошай у яе не было. Час ішоў, а вырашэння сітуацыі не знаходзілася. Тым часам у ліпені 2012 года ўступіў у сілу закон «Аб дапаможных рэпрадуктыўных тэхналогіях». Згодна з ім, забараняецца выкарыстоўваць штучнае апладненне ў адносінах да жанчын, старэйшых за 50 гадоў. Гэта стала сапраўдным шокам. У другі раз жанчына трапіла пад узроставае абмежаванне.

### Дэпутаты не падтрымалі

Антаніна Сопат вырашыла прайсці праз усё. У такую гісторыю можа яшчэ нехта патрапіць, думала яна, і трэба прайсці гэты шлях не толькі для сябе — для грамадства, у якім людзі не павінны заставацца самотнымі.

Яна звярнулася да дэпутатаў у палату прадстаўнікоў, у Адміністрацыю прэзідэнта. Прасіла ўнесці змены ў закон «Аб дапаможных рэпрадуктыўных тэхналогіях» для такіх, як яна: дазволіць штучнае апладненне ў любым узросце, калі маці страціла адзінае дзіця. Адказы былі адмоўныя, часам — адпісачныя. Нехта з парламентарыяў не бачыць мэтазгоднасці ініцыяваць такую папраўку, бо сам галасаваў за закон. Іншыя тлумачаць тым, што «абмежаванне не скіравана на пазбаўленне права жанчыны стаць мамай, а накіравана на забеспячэнне аховы жыцця і здароўя маці і дзіцяці». А адзіным выхадам з сітуацыі бачаць сурагатнае мацярынства.

Калі жанчына зразумела, што іншага выйсця ёй не пакінулі, пагадзілася на апошні варыянт. Але ж гэта надта дорага: у Беларусі прыкладна 15—20 тысяч даляраў. «Самой нарадзіць мне не дазволілі, а сабраць такую суму нерэальна. Тры гады я жыву як у кашмары».

Грошай у Сопат няма. Думала, каб прадаць кватэру і патраціць грошы на штучнае апладненне. І сёння пакідае такі варыянт, але як самы апошні. Бо ўспрымае кватэру як сваю эканамічную свабоду. «Я немаладая. А раптам у мяне пахіснецца здароўе, тады што застанецца дзіцяці?»

Жанчына звярталася да дырэктараў прадпрыемстваў у Мазыры, каб дапамаглі матэрыяльна. Усё дарэмна. Пісала да кіраўніцы Нацыянальнага банка Надзеі Ермаковай. Але Нацбанк «як дзяржаўны орган не мае магчымасці аказаць Вам бескаштоўную дапамогу і садзейнічаць ў пошуку іншых спонсараў». І параіла адчыніць дабрачынны рахунак. Як пад капірку прыйшоў адказ і з Міністэрства фінансаў.

Рахунак завяла. Банк надрукаваў адмысловыя аб'яўкі. «Думаеце, прыемна расклейваць іх на слупах?» — плача жанчына.

Першы плацеж у 20 тысяч рублёў быў працяглы час і адзіным. Пазней на рахунак прыйшлі яшчэ 130 тысяч. І ўсё.

«Я працавала ў сацыяльнай службе: дзесяць гадоў даглядала адзінокіх пенсіянерак. Сядзім, здараецца, размаўляем. А яны расказваюць, як шкадуюць, што не нарадзілі ў свой час дзяцей. Гэта цяпер маці-адзіночка — звыкла. А тады, пасля вайны, колькі сораму тое выклікала. Але да тых, хто не пабаяўся асуджэння і нарадзіў, сёння ўнукі бегаюць. А я сядзела тады і думала: «Як добра, што ў мяне ёсць сын...»

Сына няма. І боль надзеі: «Каб мне пагадзіліся адразу дапамагчы, майму дзіцяці было б ужо два гады».

**Сяргей Макарэвіч**



Кожны, хто мае дзяцей, можа ўявіць сябе на месцы Антаніны Сопат.

**Сурагатнае мацярынства каштуе 20 тысяч даляраў, а ЭКА пасля 50 гадоў забаронена**



**У свае 27 Вадзім не паспеў пакінуць маці ўнукаў.**

**Сурагатнае мацярынства**

гэта дапаможная рэпрадуктыўная тэхналогія, калі жанчына добраахвотна пагаджаецца зацяжарыць і нарадзіць біялагічна чужое ёй дзіця. Спосаб заключаецца ў злучэнні сперматазоіда і яйцаклеткі генетычнай маці (альбо донарскай) па-за арганізмам жанчыны. Эмбрыён потым пераносяць у арганізм сурагатнай маці.

Цана на такую паслугу ў Беларусі — 15—20 тысяч даляраў. У гэтую суму ўваходзіць падбор сурагатнай маці, працэдуры экстракарпаральнага апладнення, назіранне ў спецыялістаў падчас цяжарнасці, роды ў сэрвіснай палаце, штомесячнае грашовае ўтрыманне. А таксама ганарар, які сурагатная маці атрымлівае пасля родаў.

Сурагатнае мацярынства забаронена ў Аўстрыі, Германіі, Нарвегіі, Швецыі, Францыі і некаторых штатах ЗША. Часам забаронена любое сурагатнае мацярынства, часам толькі платнае, а альтруістычнае дазволена. Аргументы супраць яго і за яго ёсць розныя.

**Царква пра ЭКА і сурагатнае мацярынства**

Каталіцкая царква — адназначны праціўнік такіх тэхналогій, лічыць іх «амаральнымі». Некаторыя пратэстанцкія цэрквы дапускаюць яго. Праваслаўная царква ацэньвае яго крытычна, але не забараняе.

**Што рабіць?**

З аднаго боку, дзяржава, у адрозненне ад царквы, не выступае супраць ЭКА. Чаму тады і сапраўды не ўнесці папраўкі ў закон? Забараняць штучнае апладненне праз патэнцыйна магчымыя пагрозы для маці і дзіцяці — прынамсі, спрэчна. Аборт жа ў краіне дазволены. У адным выпадку жанчыне дазваляюць вырашаць лёс дзіцяці, у другім — не. На карысць дазволу гаворыць і тое, што працягласць жыцця паволі расце. Гэта значыць, што жанчыны даўжэй застаюцца здольнымі нарадзіць і могуць выхаваць нават позняе дзіця.

З другога боку, ніхто не забараняе зацяжарыць традыцыйна. Але, пагадзіцеся, пасля 50-ці не так і проста самотнай жанчыне знайсці для гэтага мужчыну.

# Лукашэнку ўпершыню паказалі з акулярамі

Без **рэтушы**.




У лукашэнкаўскіх газетах фотаздымкі з кіраўніком дзяржавы абавязкова рэтушуюць. А вось тэлевізійнікі пакуль слаба навучыліся «карыстацца фоташопам». А гады бяруць сваё...

Ніхто з простых смяротных ніколі не бачыў Аляксандра Лукашэнку ў акулярах. Аднак ён імі карыстаецца. Пра гэта сведчаць ўласна самі акуляры, якія знаходзіліся на стале прэзідэнта (леваруч яго) падчас нарады 11 верасня.

Блогер d-zholik адзначыў, што «ў адзін з гарачых момантаў, калі Лукашэнка актыўна жэстыкуляваў — беспаспяхова спрабуючы дастукацца да глыбінь свядомасці высокапастаўленых беларускіх чыноўнікаў, — ён ледзь не разбіў свае акуляры, заехаўшы па іх рукой».

**Мікола Бугай**

## Чаму надпісы на майках зборнай транслітараваныя з расейскай, а ў клубах — з беларускай?






**Максім Бардачоў у зборнай і БАТЭ гуляе ў майках з рознымі надпісамі.**

Справа ў **службовых пашпартах**?

Чытач Мікола Жукоўскі звярнуў увагу, што на майках зборнай Беларусі па футболе прозвішчы гульцоў транслітараваныя з расейскай, а ў клубах — з беларускай. Так і выходзіць, што за нацыянальную каманду гуляе Bordachov, а ў БАТЭ — Bardachou.

І такіх выпадкаў даволі шмат. Растлумачыць сітуацыю мы папрасілі прэс-сакратара Беларускай федэрацыі футбола Аляксандра Томіна.

«У гульцоў зборнай ёсць службовыя пашпарты. Яны імі карыстаюцца пры выездах за мяжу. Там імёны напісаныя па-расейску. З іх бярэцца ўся афіцыйная дакументацыя. Перад кожным матчам у гульцоў правяраюць пашпарты, каб пераканацца, што гэта менавіта той чалавек. І калі ў пашпарце будзе напісана Ivanov, а на майцы Ivanou, то футбаліста могуць проста не дапусціць да гульні».

**«НН»: Чаму тады ў БАТЭ ці нямецкім «Фрайбурзе» на майках транслітарацыя з беларускай?**

**АТ:** Бо ў клубах футбалісты карыстаюцца не службовымі пашпартамі, а беларускімі. На майках жа ў клубах у іх напісана, як у нацыянальным пашпарце.

Службовыя пашпарты выдаюцца чыноўнікам, супрацоўнікам Белтэлерадыёкампаніі, іншым асобам па ўзгадненні з кіраўніком дзяржавы.

Тым не менш, прэс-сакратар МЗС Андрэй Савіных аспрэчвае, што ў службовых пашпартах транслітарацыя адбываецца з расейскай. «Ва ўсіх пашпартах імя лацінкай бярэцца з беларускага арыгінала», — сказаў Андрэя Савіных.

Значыць, нехта ўсё ж недагаворвае.

**Зміцер Панкавец**

## «Шмат п’ю, танчу стрыптыз, удзельнічаю ў бойках

Рэдкая прафесія: **сведка на вяселлі**.

На форуме onliner.by з’явілася незвычайная прапанова .

«Аказваю паслугі сведкі на вяселлі. Цалкам падрыхтаваны да ўсіх конкурсаў на выкупе. Вясёлы, пазітыўны хлопец. Добра танчу стрыптыз, шмат п’ю, хутка знаходжу нявесту. Выступлю ў бойцы на любым баку. Досвед працы — 14 вяселляў. Фота дашлю на e-mail».

«НН» патэлефанавала «экстрэмальнаму» сведку, каб даведацца, ці карыстаюцца ягоныя паслугі папулярнасцю.

**Дзмітрый:** Для мяне гэта спосаб добра прабавіць час на выходных. Я па спецыяльнасці бухгалтар-эканаміст, а гэта хутчэй хобі.

**«НН»: І шмат да Вас звяртаюцца?**

**Д:** На жаль, не. Тыя 14 вяселляў, дзе я быў, гэта найчасцей у знаёмых ці ў знаёмых знаёмых. Усе вяселлі прайшлі за апошнія 7 месяцаў.

**«НН»: І як усё праходзіла?**

**Д:** У межах прыстойнасці. У бойках, дарэчы, удзельнічаць не даводзілася. Тое, што я шмат п’ю, — ну дык гэта заслуга нашага народа, які менавіта так бавіць час. Я ж не заробак шукаю, а спосаб пазнаёміцца з новымі людзьмі і добра адпачыць.

**Юрась Ускоў**

**Фотафакт**




**«Мінск-2006» перайменаваны ў «Цмокі-Мінск». Пад такой назвай баскетбольны клуб будзе прадстаўляць Беларусь на міжнароднай арэне. «Гэтае слова адлюстроўвае нашыя памкненні ў поўнай меры, яно нестандартнае і прыйшло да нас з глыбіні стагоддзяў. Яно звязвае мінулае і сучаснасць», — абвясціў дырэктар аддзела маркетынгу клуба, былы цэнтравы зборнай Аляксандр Куль. У асяроддзі заўзятараў гэта выклікала неадназначную рэакцыю.**



**Камертон Сяргея Ваганава**

## Папрокі гісторыі

– ...А вось і няпраўда, Машэраў быў прэзідэнтам...

Я азірнуўся. Некалькі хлопчыкаў і дзяўчынак павольна рухаліся сярод магіл, уголас чыталі імёны на помніках, вылічвалі, хто колькі пражыў...

Я аклікнуў іх: «Аб чым спрэчка?» «Ды вось Віцька гаворыць, што Машэраў быў віцэ-прэм’ерам. А віцэ-прэм’ер не галоўны ж, галоўны — прэзідэнт. А потым Машэраў памёр і прэзідэнтам стаў Лукашэнка...»

Гэта пяцікласнікі адной з мінскіх школ прыйшлі на Усходнія могілкі прыбраць вайсковыя пахаванні. Павыносілі смецце, пачысцілі дарожкі... А потым самыя цікаўныя затрымаліся.

Я, вядома, расказаў ім пра Машэрава, правёў, так бы мовіць, урок гісторыі...

І ўспомніў іншы, вельмі даўні ўрок.

Перад вачыма ізноў паўстаў Янэк.

У гэтага пацана былі па-ваўчынаму вострыя, прыціснутыя да галавы, вушы і калючы натапыраны позірк. Сам ён быў не па сваіх пятнаццаці гадах малы, лядашчы, але ўсё, што здаралася ў вёсцы — ад кінутай у комін здохлай вароны да крадзяжу з крамы, — валілася на яго...

Мы пасябравалі. Ён прыходзіў да мяне гуляць у шахматы, я даваў яму кнігі... Аднойчы наведаўся да яго. На ложку, пад зашмальцаванай пярэсткай коўдрай, ляжала хворая маці. «Хто тут? Настаўнік? Дапамажыце, настаўнік, загіне хлапец... Каб жывы быў бацька...»

Бацька Янэка глядзеў на мяне з пажоўклых фотаздымкаў, уціснутых па вясковай звычцы ў адну раму на пабеленай вапнай, таксама зжаўцелай, сцяне. Вось ён трымае пад аброць каня, намагаючыся не губляць ганарлівую постаць польскага жаўнера. А вось напружана сядзіць у форме, паклаўшы на калені шаблю...

У апошні раз тую вёску палілі ў 1953. Бацька Янэка сам застрэліў тагачаснага старшыню сельсавета, мужа настаўніцы, якая і праз дзесяць гадоў працавала завучам ў школе. Янэк быў яе асабісты вораг: турма, калонія — не самае страшнае, што рыхтавала яму яе пашкоджаная няўтольнай помстай свядомасць...

Бацька Янэка загінуў у тым жа 53-м, калі ягоны атрад «лясных братоў» абклалі ў лесе з усіх бакоў.

У кастрычніку, калі асіны асвятляюць змрочны яловы лес барвова-крывавым полымем, Янэк павёў мяне ў ягоную непазнавальную глыбіню. На паляне, да якой

### Не «нішчага народа» страшыцца, а гісторыкаў

дабіраліся гадзіны тры, захаваліся яшчэ паўзруйнаваныя зямлянкі, сляды ад вогнішчаў, вакол былі раскіданы рэшткі нейкай амуніцыі, лопнутыя катлы, іржавыя вёдры, у дрэвах — пазелянелыя дзіркі ад куль...

Узімку, у самыя маразы і снягі, калі ў чарговы раз нехта абрабаваў вясковую краму, Янэк знік. Але я ўжо ведаў, дзе яго трэба шукаць...

Ён мусіць быць нястомным, пошук гістарычнай праўды.

Але чаму яго так страшыцца ўлада? Чаму, як толькі праўда вылазіць вонку, улада распачынае рэпрэсіі, на гэты раз супраць гісторыкаў і вынікаў іх самадданай працы — унікальнага падручніка «Гродназнаўства» і даследавання «Саветызацыя Заходняй Беларусі»? Заўважце: не «нішчага народа» страшыцца, а гісторыкаў.

Ці не таму, што менавіта гісторыкі, ведаючы праўду пра мінулае, здольны прадбачыць будучыню?..

Не, нездарма мітусяцца праўладныя ідэолагі, выдумляючы то адну, то іншую «канцэпцыю» выкладання гісторыі ў школах. З апошніх на памяці — выкладанне гісторыі Беларусі «ў кантэксце сусветнай гісторыі». То бок расійска-савецкай...

Паглядзіце яшчэ раз падручнікі, па якіх навучаюцца вашы дзеці. Я глядзеў. Па гэтых падручніках немагчыма здабыць урокі з даўняй і не вельмі даўняй гісторыі.

Немагчыма здабыць урокі з гісторыі, калі не ўсвядоміць і не зазнаць яе папрокі — за бяспамяцтва, за хлусню, за былыя і сучасныя рэпрэсіі, за намаганні ізноў укатаць яе пад праўладна-ідэалагічны асфальт...

А Янэку я ўсё ж дапамог, уратаваў ад калоніі ці турмы. Пасля васьмі класаў ён пайшоў у ПТВ, дасылаў адтуль лісты з падрабязным пералікам пэтэвэшных падзей і пытаннямі, як ставіцца да таго, што гаворыць той ці іншы настаўнік... Аднойчы я атрымаў ад яго пранізлівы ліст, у якім літаральна кожнае слова крычала: я не краў! Так, яго ізноў западозрылі ў крадзяжы. Дырэктарам ПТВ, дзякуй Богу, быў мой аднакурснік... Потым Янэк працаваў механізатарам у калгасе, потым з’ехаў у Латвію — многія з браслаўскіх мясцін напрыканцы савецкіх гадоў шукалі там працу, уладкаваны побыт і сямейнае шчасце.

Там, у Латвіі, і згубіўся ягоны след.

Патрапіў у кантэкст сусветнай гісторыі.

*kamerton_41@mail.ru*

# Бяляцкі на вялікіх ростанях

**25 верасня палітвязню, праваабаронцу Алесю Бяляцкаму споўніцца 50 гадоў.**

Да гэтай даты мы пагаварылі з жонкай Алеся Наталляй Пінчук, якая ўзгадала цікавыя гісторыі з іхняга жыцця. 10 фактаў, пра якія не прачытаеш у Вікіпедыі ці афіцыйнай біяграфіі.


Алесь Бяляцкі.


Наталля Пінчук.

### 1. Знаёмства з жонкай

«У Лоеве жаніўся мой стрыечны брат, — расказвае Наталля Пінчук. — Гэта быў 1981 год. Алесь быў на вяселлі як музыка. Запрасіў мяне танчыць, а потым праводзіў дадому. На другі дзень мы працягнулі наша знаёмства. Магчыма, такім мімалётным наша знаёмства б і засталося, каб не іншы выпадак».

### 2. Праходзілі практыку ў суседніх лагерах

«Я вучылася ў педвучэльні ў Лоеве, а Алесь — у Гомельскім дзяржаўным універсітэце. Пасля трэцяга курса была летняя практыка, калі студэнты выязджалі ў лагеры працаваць піянерважатымі. Выйшла так, што практыку мы праходзілі адначасова, і нас накіравалі ў суседнія лагеры. Вось там знаёмства і замацавалася. Былі спатканні на ўсю ноч, не да дзяцей ужо было раніцай. Я тады пазнаёмілася з ягонымі аднакурснікамі: Едрусем (паэт Эдуард Акулін — «НН»), дзяўчатамі. У Алеся была тады вельмі густая шавялюра, маім сяброўкам ён таксама вельмі падабаўся».

### 3. Жылі паасобку

«Разам прабылі ў Гомелі толькі адзін год, калі ён быў на пятым курсе, а я на першым. Добра памятаю, што я рыхтавалася да свайго іспыту, а ён вучыў французскую мову — да свайго. А шлюб бралі ў 1987, я тады была на чацвёртым курсе, а ён у аспірантуры ў Мінску, пабраліся ў красавіку, я ўзяла тры выхадныя ў дэканаце, усклалі кветкі да помніка Максіму Багдановічу, пасля пайшлі ў рэстаран «На ростанях». Мы ўжо прайшлі стадыю, калі жылі паасобку: я ў Гомелі, ён — у Мінску. Як я скончыла ўніверсітэт, то мяне размеркавалі ў Калінкавіцкі раён, у вёску Даманавічы, настаўнічала ад верасня да сакавіка. Калі сышла ў дэкрэтны адпачынак, то з'ехала да ягоных бацькоў у Светлагорск. Была ў іх два месяцы падчас дэкрэтнага і чатыры месяцы пасля нараджэння Адама. Толькі пасля мама Алеся Ніна Аляксандраўна дала нам грошы, што ўтаргавала на клубніцах, каб мы здымалі кватэру ў Мінску».

### 4. Цесць не адразу прыняў

«Памятаю Дзяды-1988, калі Алесь прыехаў дадому, ціха на вушка мне расказаў, што было, як іх разагналі. І дае паліто, у якім парвалі рукаў. Кажа, толькі бацькам не гавары. Зашываю, а маці ходзіць і кажа: «Дзесьці ўжо ў міліцыю трапіў». Настолькі яна празорлівая была.

Зразумела, ведаеш, на што ідзеш, але праблем і перажыванняў праз гэта меней не становіцца. У мяне бацька быў партыец, шчыры камуніст, ён адразу зразумеў, хто ягоны зяць. Бацька прыносіў дадому лісты, што распаўсюджваліся ў арганізацыях аб «Тутэйшых», «Талацэ». Ён імкнуўся не ў лоб пярэчыць нашым стасункам, а дзейнічаць нібыта незнарок. Я толькі праз нейкі час сказала яму, што пабралася шлюбам».

### 5. Дасылаў жонцы смс аб пералётах

Па сваёй працы Бяляцкаму часта даводзілася ездзіць за мяжу ў камандзіроўкі. Жонка кажа, што нармальна пераносіла такія паездкі, толькі перажывала за палёты. «Мне было важна ведаць, ці ён прыляцеў, ці не. Таму я яго прывучыла: як толькі прызямляецца, дасылаць мне смс-ку».


Бяляцкі граў на вяселлях на гітары, так ён пазнаёміўся з будучай жонкай.


Пабраліся, калі Алесь вучыўся ў аспірантуры, а Наталля — на чацвёртым курсе гістфака.

### 6. Іграў на гітары

Граў на гітары ў гурце «Баскі» падчас вучобы ў Гомелі. Менавіта гэты калектыў запрасілі на вяселле стрыечнага брата Наталлі. «Пасля ўніверсітэта гітару ў рукі ніколі не браў».

### 7. Грыбы і кветкі

«У прынцыпе, ты не памылілася: маё хобі — чытанне, — цытуе Наталля ліст Алеся. — Але маё літаратуразнаўчае мінулае псуе маё чытанне. А вось сапраўдных хобі ў мяне два: збіранне грыбоў і догляданне кветак у садзе, але не хатніх». Наталля смяецца, што з грыбоў Алесь заўсёды прыходзіў з поўнымі кашамі. «А потым пачыналіся спрэчкі, ці можна гэтыя грыбы есці ці нельга. Алесь лічыў, што ўсе яны ядомыя. Скончалася звычайна тым, што Адам адцягвае бацьку ў іншы пакой, а я выкідваю палову і кажу, што так уварыліся *(смяецца)*».

У пачатку кастрычніка Нобелеўскі камітэт у Осла абвесціць імя лаўрэата Нобелеўскай прэміі міру за 2012 год. Сярод прэтэндэнтаў — Алесь Бяляцкі.

**Мама Алеся дала нам грошы, што ўтаргавала на клубніцах, каб мы здымалі кватэру**

### 8. Ежа і засолы

«Нават сябры здзіўляліся, што гарадскі чалавек Алесь так прызвычаіўся працаваць на зямлі. На лецішчы ў яго заўсёды быў поўны парадак. Вырошчваў гуркі, бульбу, усяго ў яго было. Вось і з турмы часта піша, пытаецца, як там справы на гародзе. Летась я сабрала ягоных сяброў, каб дапамаглі са зборам ураджаю. Алесь і засолы на зіму самастойна рабіў. Што тычыцца ежы, то мне больш падабаюцца простыя рэцэпты, а вось Алесь любіць сам нешта прыдумваць, эксперыментаваць».

### 9. Рыбалка, паляванне, футбол

У сямейным альбоме ёсць здымак, дзе Алесь са стрэльбай на руцэ трымае ў іншай падстрэленага зайца. «Гэта яны з сябрамі пайшлі на паляванне. Здаецца, што на чатырох чалавек у іх было адно ружжо. Вядома, нікога не ўпалявалі. Затое на зваротным шляху сустрэлі іншага паляўнічага са здабычай, дык хоць пафоткаліся». Іншы здымак, Алесь на рыбе: «Не памятаю, каб ездзіў на рыбалку калі. Можа, тое самае, што і з зайцам *(смяецца)*».

Затое Бяляцкі любіў ездзіць на байдарках. Імкнуўся выправіцца ў такое падарожжа кожнае лета. «Футбол мы толькі часам глядзелі, самыя буйныя спаборніцтвы. А ўвогуле мала магу ўзгадаць выпадкаў, каб мы разам глядзелі тэлевізар, неяк не склалася, Алесь часцей у вольныя хвіліны чытаў кніжкі».

### 10. Мова

«З Алесем у сям'і заўсёды гаварылі па-беларуску. І Адама так выхоўвалі», — кажа Наталля Пінчук.

**Зміцер Панкавец**

# Беларуская глыбіня. **Апазіцыя сумлення**

Піша **Павел Севярынец**.

*— Хто не супраць вас,*
*той за вас.*
*Марка 9:40*

*— Хто не са Мною,*
*той супраць Мяне,*
*I хто не збірае са Мною,*
*той раскідае.*
*Лукі 11:23*



**Павел Севярынец**

палітык, пісьменнік. Сузаснавальнік Маладога Фронту, пасля Беларускай Хрысціянскай Дэмакратыі. Асуджаны на тры гады «хіміі» па справе так званых «масавых беспарадкаў» — так лукашэнкаўцы называюць пратэсты з патрабаваннем дэмакратыі і справядлівасці, што адбыліся ў дзень выбараў 19 снежня. Адбывае пакаранне ў Кupліне Пружанскага раёна.

Беларусы ўжо даўно ў маўклівай апазіцыі.

Хтосьці летась згубіў дабрабыт, кагосьці нарэшце дастаў паўсюдны ўціск, а камусьці крыўдна за дзяржаву ўжо 18 гадоў, на працягу якіх рэжым з нахабствам бандзюкаватага бэйбуса дасягаў свайго паўналецця.

Маўчым, бо ўсё адно нічога не зменіш, бо як разявіш рот, будзе горш, бо няма каму заступіцца. Зрэшты, ёсць і больш глыбокая прычына: сённяшні беларус разумее, што насамрэч страх, гвалт, хлусня ды крадзеж сённяшняга начальства жыве ў ім самім.

Таму той, хто ўсё-такі спрабуе змагацца з Лукашэнкам у спадзяванні, што людзі супраць, завісае па-над безданню.

На пытанне пра апазіцыю жыхары пружанскай ваколіцы паціскаюць плячыма. Быў, маўляў, тут нейкі рыжы, выпінаўся нешта, ды з’ехаў за мяжу. Часам збіраецца купка за белмову... Вось хтосьці сцяг *ваш гэты* вясной вывесіў... ну, і калісьці быў бээнэф трыста чалавек.

А ўнутраная нязгода — лічы што ў кожнага.

Насамрэч усе прыкметы яўнай апазіцыйнасці — адкрыты пратэст, сімвалы, мова, еўрапейскі выбар ды дэмакратыя — апошнія гады здрабняюцца і блякнуць на тле ўзрослага прыгнечанага ўсенароднага маўчання, з якім беларус трывае зло.

Часам здаецца, што гэта нема стогне сама Беларусь

I менавіта гэтай сілы рэжым баіцца найбольш.

Бо сэрцам жывога і дзейснага супраціву злу ў маштабах цэлага народа і цэлай краіны можа быць толькі закладзенае ў кожнага чалавека звышнепрыняцце грэху: гвалту, хлусні, падману. Інстынктыўны адпор няпраўдзе ў самім сабе ды іншых. Калі апазіцыя абапіраецца не на раздражнёныя пачуцці, а на хай сабе смутны боль сумлення — яна рана ці позна прымусіць здацца любую тыранію.

Але беларускі крыж, крыжавіна правалу свабоды з катастрофай свядомасці адчыняецца толькі крыжовым жа ключом: пакутлівай самаахвярнасцю і ўваскрасеннем.

Таму праўда і свабода, вера і любоў мусяць стаць не адно выглядам, а самой сутнасцю апазіцыі. Несумленнасць, бруд і сваркі ўнутры такой апазіцыі робяцца проста невыноснымі.

Усім разам, нават рэзка рвануўшы, выцягнуць сябе за валасы з балота не атрымаецца. Значыць, трэба шукаць тых самых носьбітаў сумленнасці, пакліканых стаць нацыянальнымі кропкамі апірышча, — тых самых, якія пакуль «не лезуць у палітыку». Дзе? Сярод вернікаў-хрысціянаў найперш; сярод удумлівай, у тым ліку тэхнічнай, інтэлігенцыі, сярод несапсаванай моладзі.

Менавіта цяпер вызначаецца, чым будзе Беларусь. Менавіта з сённяшняй дзесяцімільённай жывой раны, з сённяшняй цяжарнасці сумлення нараджаецца заўтрашняя нацыянальная тоеснасць. Хтосьці бачыць Беларусь гэткай утульна ліберальнай Чэхіяй, хтосьці — правінцыйнай расейскай адпачывальняй з белымі росамі і малачком, хтосьці — туманнай ускраінай Еўропы...

Але Беларусь будзе Беларуссю.

Гэта ж двойчы два: нацыю крышталізуе нацыянальная ідэя.

А формула нашай нацыянальнай ідэі простая: «Беларуская форма — хрысціянскі змест». Беларуская мова, гісторыя, культура, адметнасці — дзеля найвышэйшага, хрысціянскага зместу, які іх напаўняе і асвячае. Ува ўсёй светлай, празрыстай, бел-чырвона-белай ахвярнай глыбіні беларускасці прасвечвае Хрыстос.

I гэта не толькі і не столькі для саміх беларусаў. Сваіх найлепшых творцаў ды найвыбітнейшых геніяў Беларусь аддала Расеі ды Польшчы, гісторыю — Літве, унію — Украіне, габрэйства — Ізраілю, адрывала ад сябе жывыя кавалкі, наталяючы і дабраслаўляючы ворагаў, і, укрыжаваная, сталася Хрыстовым вобразам і падабенствам у сэрцы Еўропы.

Скажаш, *народу* фіялетава?..

Але беларускі народ — гэта не адно дзесяць мільёнаў сённяшніх насельнікаў Беларусі. Гэта і мільёны жыхароў ВКЛ ды Рэчы Паспалітай, і паўстанцы Каліноўскага, і закатаваныя ў ГУЛАГу вернікі... I адначасна пакаленні тых, хто будзе пасля нас.

ТЫЯ нямногія, хто здольны гэта ўмясціць, — адказныя за ўсіх астатніх.

Урок беларускіх Адраджэнняў пачатку і канца XX ст. заключаецца ў тым, што акцэнт на форму (беларускасць) аказаўся мацнейшы, чым на змест (на Хрыста) — а любая форма, якая імкнецца паглынуць змест, рана ці позна правальваецца. Беларуская праўда, свабода і справядлівасць, ды ў рэшце рэшт і адметнасць, насамрэч заключаюцца не ў аканні, яканні або форме ўзораў на арнаменце, а хочаце верце, хочаце не — у Ісусе Хрысце.

Часам раяць: чуеш, прапаведнік, а ідзі-ка ты... у царкву. Наадварот, гэта царква мусіць ісці ў грамадства, ацаляць, прасвятляць і перавязваць параненых ды паміраючых беларусаў, якіх мільёны.

Апазіцыя, патрэбная Беларусі, — гэта актыўная супольнасць сумлення. Жывыя цэрквы (не іерархіі — цэрквы!). Прыстойныя сем’і, дбайныя гаспадары. Моладзевыя рухі, якія ідуць ад сэрца.

Верыш у Бога? Любіш Беларусь? Дзейнічай!

Крыжовая сістэма каардынатаў будучага Адраджэння і будучай перамогі — трохканфесійная хрысціянская беларускасць.

I прычына не толькі ў тым, што гісторыя Беларусі наскрозь евангельская, што маральнасць сама па сабе ёсць падмуркам любой дзяржавы, і нават не ў тым, што праз здабыткі ды знакі тысячагадовай хрысціянскай Беларусі мы ўсведамляем сваю прыналежнасць да заходняй цывілізацыі.

Галоўная прычына — Бог рэальна існуе. I Ён дабраслаўляе тых, хто выракаецца сябе, бярэ свой крыж і ідзе за Ім — пад сцягам Ягонага ўваскрасення і перамогі.

*Куплін*

### Часам раюць: прапаведнік, а ідзі-ка ты… у царкву

# Вольскага дастала

**Музыка ахвяраваў выступам на «Камяніцы» дзеля канцэрта ў падтрымку палітвязняў.**

На фолк-фэст «Камяніца» пад Мінскам многія ехалі пачуць «Крамбамбулю». Аднак напярэдадні Лявону Вольскаму паведамілі, што выступаць яны не будуць. «Крамбамбуля» сама адмовілася», — сказалі на прэсканферэнцыі арганізатары. «Не трэба вінаваціць арганізатараў, — кажа Вольскі. — Усё вырашаюць тыя, хто займаецца «чорным спісам».

Свой нявыступ музыка прадказаў за два дні да «Камяніцы», падчас канцэрта на Управе БНФ. У штабкватэры Фронту ідзе Марафон салідарнасці з палітзняволенымі. Зміцер Бартосік і Славамір Адамовіч, Зміцер Вайцюшкевіч і Алесь Пушкін, Леанід Лыч і Андрэй Мельнікаў — барды, паэты, мастакі, навукоўцы выступаюць штодня.

Вольскі 13 верасня сабраў там аншлаг: у невялікую залу набілася болей за 100 чалавек. Людзі не змясціліся ў памяшканні, слухалі канцэрт пад вокнамі. Вольскі з гітарыстам Алесем Гарусам і саксафаністам Паўлам Аракелянам праспяваў найлепшыя песні з рэпертуару «Мроі», «Народнага альбома», «N.R.M.», «Я нарадзіўся тут».

Музыка пагадзіўся на гэты канцэрт не раздумваючы. «Хочам хоць неяк выказаць падтрымку гэтым людзям», — казаў Лявон. Пры канцы запрасіў усіх прысутных на «Камяніцу» з выступам «Крамбамбулі», адзначыўшы, што, магчыма, той выступ і не адбудзецца: «І вы ведаеце чаму».

У сацыяльных сетках пачулася крытыка: маўляў, музыкі «падставілі» арганізатараў, напляваці на гледачоў «Камяніцы», бо маглі б «дзеля 5 тысяч чалавек» перанесці канцэрт салідарнасці ў невялікай зале. «Хіба палітвязні на мінулым тыдні з'явіліся?» — папракае Вольскага музычны крытык Зміцер Бескаравайны.

Але і ў Вольскага накіпела. Незалежныя музыкі пазбаўленыя вялікіх пляцовак і эфіру, могуць граць толькі «кватэрнікі», кажа ён. «Канцэрт на «Камяніцы» быў бы адзіным вялікім канцэртам «Крамбамбулі» за ўвесь год. Скажыце, ці варта за яго змагацца? — каментуе Лявон Вольскі. — Дзе гарантыі, што тыя самыя цёмныя сілы не адмяняць яго перад нашым выхадам на сцэну? Я ўжо не ў тым веку, каб шукаць кампрамісы. Я ведаю, што са сцэны «Камяніцы» мы б не змаглі раўсці «Жыве Беларусь!». А хочацца. Але перад сцэнай там стаяць трыццаць міліцыянтаў. А канцэрты кшталту таго, які мы адыгралі на БНФ, як мы кажам, «чысцяць карму».

Раней, па яго словах, у дачыненнях незалежных музыкаў з уладай існавала пэўная сістэма кампрамісаў, а цяпер поле для «гульні» звузілася. «Раней па тэлевізары паказвалі наш кліп «Госці». Цяпер такое немагчыма», — прыводзіць прыклад Вольскі.

«І так шмат хлусілі, выкручваліся, лавіявалі, мімікравалі і падладжваліся, — піша Вольскі ў фэйсбуку. — І маем тое, што маем. А мы маем палітвязняў, чорныя спісы, падвойныя стандарты і ўвесь джэнтльменскі набор хваробаў, набытых за апошнія 18 гадоў. Занадта ўжо доўга ўсё гэта працягваецца, сябры мае. Падтрымліваць гульню — працаваць на татальную дэградацыю».

Дарэчы, той, хто хацеў, мог пачуць «Крамбамбулю» і 15 верасня. Позна ўвечары гурт выступаў на байкерскім фэсце «для сваіх». Паводле словаў Лявона, туды завітала і частка слухачоў з «Камяніцы».

**Юрась Ускоў**

13 верасня Вольскі «засвяціўся» не толькі на ўправе БНФ. На сядзібе Руху «За Свабоду» ён атрымаў прэмію «За свабоду думкі» імя Васіля Быкава.



**Незалежныя музыкі пазбаўленыя вялікіх пляцовак і эфіру »**

BUDZMA.ORG

Вольскі на сядзібе БНФ.



На «Камяніцы» сабраліся некалькі тысяч чалавек.

АЛЕГ ХАМЕНКА

**Высокая культура**

## Танк № 009 — спрэчны

У выдавецтве «Логвінаў» выйшаў зборнік са ста вершаў Максіма Танка «Абвяржэнне», выбраных Хадановічам. **Больш — на NN.BY.**

## Беларусі адсеклі рукі і выкалалі вочы

Сяржук Русецкі — пра оперу «Сівая легенда», як яна ўдалася. **Больш — на NN.BY.**

## Я напісаў кнігу асабістую

Да аўтараў і чытачоў «Добрай фатаграфіі» піша Зянон Пазняк.

**Больш — на NN.BY.**



**Сціслa**

**Беларускамоўны гурт Akute выступіць на разагрэве ў Placebo**

Напярэдадні прыезду ў Мінск зорак сусветнага брыт-року быў абвешчаны конкурс сярод беларускіх гуртоў. Выбарам разагрэву займаўся фронтмэн Placebo Молка разам з дырэкцыяй гурту. Канцэрт брытанцаў адбудзецца 22 верасня ў Палацы спорту.

**Купалаўскі тэатр паставіць кабарэ пра Заходнюю Беларусь**

Прэм'ера — 31 кастрычніка (на сцэне Дома афіцэраў). Зоркай пастаноўкі стане бард Віктар Шалкевіч **(на фота)**. Спектакль «Местачковае кабарэ» — гэта рэжысёрская фантазія, спроба ўявіць сабе астравок буржуазнага жыцця, які мог напраўду існаваць у Слоніме, Баранавічах у 1930-я. Ставіцца спектакль па творах М.Хемара і Ю.Тувіма, Л.Дэнца, В.Шалкевіча. Аўтар ідэі і пастаноўкі і рэжысёр-пастаноўшчык — Мікалай Пінігін.



PHOTO BYMEDIA.NET

**Кінатэатр «Цэнтральны» пачаў прадаваць квіткі анлайн**

Каб набыць квіток на прэм'еру, неабходна наведаць віртуальную касу кінатэатра на сайце kinoteatr.megamag.by. Аплаціць забраніраваны білет можна любым са спосабаў, паказаных на сайце.

**Аслюк атрымаў Гран-пры Magnificat-а**

Фестываль хрысціянскіх фільмаў Magnificat-2012 праходзіў у Мінску і Глыбокім з 9 па 13 верасня. Пераможцам назвалі фільм «Драўляны народ». Рэжысёр Віктар Аслюк расказвае пра пажылога майстра, які стварае з дрэва не проста фігуркі людзей, а цэлы драўляны народ.

**СМ; «Еўрарадыё»**

# Забойства Лявона

Ён абышоў пешшу паў-Беларусі, ствараў незалежніцкія гурткі, прывёў да беларушчыны шэраг заслужаных для краіны людзей. 40 гадоў таму Лявон Баразна загінуў ад удару нажом у сэрца. Савецкі КГБ забіў патэнцыйнага нацыянальнага лідара? Ці просты крымінал? Піша **Дзмітрый Гурневіч**.

### Пагром дысідэнцтва

Увесну 1972 года Палітбюро абмяркоўвала ў Маскве пытанне пра дысідэнцкі рух. Старшыня КГБ Юры Андропаў прапануе разабрацца з «агентамі Захаду». Брэжнеў падтрымлівае прапанову і заклікае «секчы гэтыя з'явы ў корані, не дазваляць падонкам атручваць атмасферу савецкага грамадства». У краіне саветаў пачынаецца «пагром дысідэнцтва».

У Маскве арыштоўваюць праваабаронцаў Якіра і Красніна. Уладзіміра Букоўскага прысуджаюць да 7 год турмы. Пачынаецца кампанія ачарнення акадэміка Андрэя Сахарава і Аляксандра Салжаніцына, які зусім нядаўна цудам выжыў пасля спробы невядомых атруціць яго.

Арышты і суды над дысідэнтамі адбываюцца і ў Ленінградзе, Новасібірску. Рэпрэсіі сягаюць Вільні. Але найбольш дастаецца ўкраінцам. У Львове адбываюцца масавыя арышты па «справе Добаша». КГБ праз шантаж дазнаецца ад бельгійскага студэнта ўкраінскага паходжання Яраслава Добаша, які збіраў ва Украіне ўзоры «самвыдату», імёны аўтараў крамольных выданняў. Практычна ўсе яны атрымліваюць вялікія тэрміны і трапляюць у лагеры строгага рэжыму на Урале і ў Мардовіі.

Каб ізаляваць іншадумцаў, улады выкарыстоўваюць «карную медыцыну». Тыя, каго немагчыма прыцягнуць на аснове крымінальнага кодэкса, становяцца пацыентамі вар'ятняў, дзе на іх праводзяць нечалавечыя доследы.

У Мінску арыштаў не адбылося. Здавалася, што чорная хмара абышла Беларусь бокам. Але ўлетку 1972 года мінскую інтэлігенцыю скалынае жудасная навіна. Увечары 15 жніўня ад удару нажом у сэрца гіне мастак-нонканфарміст Лявон Баразна.

### З кіем у руках

Лявон Баразна прыйшоў на свет пад Талачынам на Віцебшчыне ў 1929 годзе. Дзіцем і падлеткам ён перажывае жахі сталінскага тэрору і Другой сусветнай вайны. У 1950 годзе пасля службы ў войску 21-гадовы Лявон Баразна ўпершыню трапляе ў Мінск. Пасляваенная сталіца яшчэ напалову ляжыць у руінах. У чэрвені да расстрэлу прысуджаюць антыбальшавіцкіх падпольшчыкаў Расціслава Лапіцкага і Факунду Несцяровіча, аднагодкаў Баразны.

Лявон паступае ў Мастацкую вучэльню і праз два гады атрымлівае свой першы дыплом. Падчас вучобы ён пачынае актыўна цікавіцца арнаментам, адзеннем, ткацтвам. Баразна вырашае па крупіцах вяртаць краіне народнае мастацтва. Ён купляе капялюш, апранае плашч, бярэ кій у рукі, мальберт за плечы, фарбы ў торбу і ідзе пешшу па Беларусі. Без грошай, без ежы ён ходзіць па вёсках і распытвае ў людзей, што за вопратку яны носяць, якія выкарыстоўваюць арнаменты, посцілкі, як ткалі, як вышывалі. Распытвае і замалёўвае. Добрыя людзі накормяць і пацеляць. І так некалькі гадоў. Вынікам тых хаджэнняў сталі пазней 4 альбомы пра скарбы беларускай народнай культуры, якія ён уласнаручна намаляваў, пераплёў і здаў у Мастацкі музей. У 1963 годзе Баразна зноў прыязджае ў Мінск. Ён хоча атрымаць вышэйшую адукацыю і паступае ў Беларускі дзяржаўны тэатральна-мастацкі інстытут.

### 19-гадовага завуць Зянон

Пры канцы лета ён селіцца ў інтэрнат на скрыжаванні Бабруйскай і Свярдлова, ля вакзала. У капелюшы, шэдры-кальчузе (якія пазней стане яго неадлучнай візіткай) ён заходзіць у пакой і з парога пачынае па-беларуску гутарку з маладым хлапцом-суседам. 19-гадовага студэнта завуць Зянон Пазняк, таксама студэнт БДТМІ. Паміж аднапакаёўцамі немалая розніца — 15 гадоў, але яны імгненна знаходзяць супольную мову і становяцца сябрамі. Пасля пачатку навучальнага года Пазняк і Баразна ствараюць у інстытуце суполку пад назвай «Аматары беларускага мастацтва». Пазняк пачынае ладзіць экскурсіі па старым Мінску. Баразна — этнаграфічныя экспедыцыі. У архівах яны шукаюць беларускія матэрыялы. Аднойчы падчас паездкі ў Ленінград група Баразны натрапляе на ўнікальныя дакументы. Моладзь у шоку, ніхто з іх не можа паверыць, што адшуканыя матэрыялы могуць датычыць БССР, краіны, якую яны, здавалася б, добра ведаюць. На сустрэчу АБМ прыходзіць усё больш наведнікаў. Студэнты ладзяць вечарыны, запрашаюць Рыгора Барадуліна і Уладзіміра Караткевіча. Чытаюць вершы заходнебеларускіх паэтаў, якія, хоць ужо і выдаваліся, але ўсё яшчэ лічыліся крамольнікамі. Але студэнты маюць добрае прыкрыццё — іх ініцыятыву падтрымлівае сам рэктар Павел Масленнікаў. Гэта дадае моладзі адвагі. На адну сустрэчу Пазняк прыносіць «Кароткую гісторыю Беларусі» Вацлава Ластоўскага.

### «Цяпер, калі немагчыма дыхнуць»

Баразна бярэ слова і кажа, што «цяпер, калі немагчыма дыхнуць, трэба пашыраць беларушчыну праз міжлюдскія кантакты, бо ў нашыя галовы вораг не залезе». Змест прачытанай кнігі Ластоўскага студэнты расказваюць адзін аднаму падчас сустрэчаў. Пачынаецца ланцуговая рэакцыя. Экскурсіі па Верхнім горадзе замест Пазняка пачынаюць праводзіць ужо новыя людзі. АБМ разрастаецца і дзеліцца на групы энтузіястаў: археолагаў, этнографаў, гісторыкаў. Гэтаму спрыяе ліберальная атмасфера Тэатральна-мастацкага інстытута. Паказальную эвалюцыю там перажыў студэнт-актывіст Васіль Шаранговіч — у будучыні



народны мастак Беларусі. Ён размаўляе па-расейску і трымаецца воддаль ад беларускіх справаў. Усё мяняецца пасля таго, калі яму замаўляюць намаляваць графіку да зборніка вершаў Купалы. Каб мастак-пачатковец адчуў творчасць класіка, яму даюць пачытаць малавядомыя вершы Купалы, у якіх няма ўзгадкі пра «дурнога мужыка-беларуса» і «Сталіна—Леніна». Шаранговіч мяняе погляды і сам пачынае гаварыць па-беларуску.

Лявона Баразну ў інстытуце ведае кожны. Нават тыя, хто з'едліва хіхікае з яго беларускай мовы і называе за плячыма дзіваком, ставяцца да яго з глыбокай пашанай. Яго шануюць за адвагу і добразычлівасць. Баразна быў чалавекам, няздольным на подласць.

### Штосьці большае

У 1966 годзе захапленне беларускім мастацтвам перараджаецца ў штосьці большае. У майстэрні Яўгена Куліка, якая месцілася акурат насупраць будынка КГБ, пачынае збірацца навуковая і мастацкая інтэлігенцыя. Пад самым носам у чэкістаў дзейнічае апазіцыйны асяродак, які ад назвы майстэрні Куліка атрымаў назоў «На паддашку». У Куліка збіраліся Пазняк, Алесь Разанаў, Алесь Марачкін, Міхась Чарняўскі ды іншыя. Мастакі чыталі самвыдат, рыхтавалі выставы, арганізоўвалі пошукавыя экспедыцыі.

Як узгадваў пазней сябра Лявона Баразны Барыс Мельнікаў, той гаварыў усё, што думаў, і не звяртаў увагі на перасцярогі сяброў, што паўсюль могуць быць сексоты. «Ён прапагандаваў аддзяленне Беларусі ад Савецкага Саюза, гэта была ягоная ідэя, з ёю ён падымаўся і клаўся спаць», — узгадваў пазней Мельнікаў.

Акурат у той час Лявон Баразна жэніцца, а праз пару год у іх з жонкай Марыяй нараджаюцца дочкі — Алена і Каця.

### «Это же национализм»

Лявон працуе галоўным мастаком Мастацкага фонду БССР. У1967 годзе яму даручаюць афармленне Мінска да 900-гадовага юбілею. Баразна робіць цалкам беларускі праект — па форме і змесце. Разынка праекта — прапанова рэканструяваць старадаўняе мінскае замчышча. На абмеркаванне праекта Баразну запрашаюць да Машэрава. Пабачыўшы беларускія надпісы, першы сакратар пачаў абурацца: «Это же национализм». «Ды ніякі не нацыяналізм. Усё пасуе да даты», — адказвае яму Баразна. Машэраў наліваецца чырванню. «Меня не интересует ваш погляд. И вообще надо думать, каких мы художников привлекаем», — з абурэннем у голасе перабівае яго Пятро Міронавіч. Машэраў у шоку. Ён жа першы сакратар, гэта ён павінен размаўляць, а іншыя павінны яго слухаць і не пярэчыць. Абурэнне Машэрава было вердыктам на пераслед. Баразну адхілілі ад той працы.

Праз два гады па загадзе таго ж Машэрава пачалося знішчэнне Верхняга горада. Баразна дапамагае Пазняку ў абароне Нямігі, яны затрымліваюць руйнаванне на тры гады.

А ў прафесійным жыцці Баразна працягвае займацца сваёй улюбёнай справай — сцэнічным касцюмам. Ён апранае дзясяткі калектываў.

Напачатку 1972 года Баразна выдае ўнікальны альбом «Гравюры Францішка Скарыны». Ён першым адкрыў гравюры Скарыны для масавага чытача.

### Насупраць «Перамогі»

У 1972 годзе зноў пачынаюць руйнаваць Нямігу. Баразна актыўна ўключаецца ў абарону старога Мінска.

Увечары 15 жніўня 1972 года Лявон Баразна вяртаецца ў сваю майстэрню на вуліцы Камсамольскай. Яна месцілася акурат насупраць кінатэатра «Перамога». Мастак выходзіць з аўтобуса і гутарыць з незнаёмай жанчынай. Дагэтуль невядома, хто пачаў тую размову. Тут да іх падыходзяць двое невядомых і пачынаюць чапляцца да жанчыны. Баразна робіць ім заўвагу. Пачынаецца слоўная перапалка. «Я вас зараз здам у міліцыю», — пагражае Баразна. Насупраць кінатэатра тады месціўся пастарунак. Двое невядомых абкладаюць Баразну матам і пачынаюць яго штурхаць. Жанчына, праз якую і пачаліся разборкі, бокам-бокам і знікае з вуліцы. Чаго датычыць далейшая размова Баразны і двух хуліганаў — невядома.

### «Сэрца, маё сэрца»

Баразна забягае ў міліцыю і кажа, што яго правакуюць на бойку хуліганы. Разам з міліцыянтам яны выходзяць на вуліцу, супрацоўнік бяжыць за Баразной. Двое хуліганаў кінуліся ў дворык непадалёк ад майстэрні Баразны. Адзін з іх дастае нож і кідаецца з ім на міліцыянта. Міліцыянт хапае за руку мужчыну, але той нажом наносіць яму удар у левае перадплечча. Міліцыянт заломвае яму руку і бачыць, як другі з іх замахваецца нажом на Баразну. Міліцыянт чуе словы Баразны: «Сэрца, маё сэрца». Гэта былі яго апошнія словы, і праз пару секунд ён падае на зямлю. У гэты час забойца Баразны кідаецца з нажом на міліцыянта, каб адбіць свайго напарніка. Ахоўніка правапарадку ратуе прафесіяналізм. Ён штурхае мужчыну, якому хвілінай раней заламаў руку, на забойцу Лявона і такім чынам ратуе сябе ад другога ўдару нажом. Невядомыя кідаюцца ўцякаць. Міліцыянт бяжыць у пастарунак і абвяшчае акцыю «Перахоп». Раён ачапляюць. Менш чым праз гадзіну злачынцаў затрымлівае міліцыя.

Хаваюць Баразну на малой радзіме, у вёсцы Новае Сяло Талачынскага раёна. Але на пахаванні нябожчыку не даюць спакою. За працэсіяй сочыць міліцыя, мегафоны равуць.

### Браты Золатавы

Суд над арыштаванымі. Становіцца вядомыя некаторыя падрабязнасці здарэння, выяўленыя падчас следства. Злачынцы — гэта беспрацоўныя браты Міхаіл і Аляксандр Золатавы, ураджэнцы расійскага горада Калінін. Аляксандр — малодшы, які напаў на міліцыянта — лейтэнанта П.Кавалёва. Старэйшы, Міхаіл, забіў Лявона Баразну. Вядома, што самаробна вытачаныя на заводзе нажы злачынцы ўзялі ў знаёмай па прозвішчы Кандратовіч, з якой выпівалі. Пасля бойкі ля майстэрні Баразны яны ўцяклі ў бок плошчы Свабоды, выцерлі нажы аб траву і пабрылі далей, пакуль іх не затрымала міліцыя.

«Самы справядлівы ў свеце суд» нагадвае тэатральную дзею. Старэйшы з братоў Міхаіл сімулюе псіхічна хворага. На ўсе пытанні ён адказвае аднолькава: «Я сын Сталина. Я исполнил долг». Ніхто ў зале не меў сумневаў, што гэта была ігра. Гэта, зрэшты, два разы пацвярджае і медыцынская экспертыза, якая двойчы перапыняе

# Баразны

суд на досыць працяглы тэрмін. Але Золатаў, нягледзячы на заключэнне лекараў, працягвае да канца працэсу сімуляваць хваробу.

Абаронцы прадстаўляюць справу такім чынам, як быццам злачынцы дзейнічалі незалежна адзін ад аднаго, а ўсе іх дзеянні — гэта ланцуг збегу абставінаў. Яны выпадкова ўзялі ў той вечар нажы, выпадкова абразілі і штурхнулі Баразну, выпадкова пачалі ад яго збягаць, выпадкова схаваліся менавіта ў ягоным двары і выпадкова забілі самога Баразну і паранілі міліцыянта Кавалёва.

## Роля жанчыны

Цікава, што суд не звярнуў асаблівай увагі на факт нашэння Золатавымі халоднай зброі. Хаця, калі Золатавы мелі нажы, значыць, яны мелі пры гэтым нейкую мэту. Следства не зацікавілася фактам, адкуль злачынцы ведалі, дзе знаходзіцца майстэрня Баразны і адкуль сам Баразна мог ведаць, што тыя будуць хавацца менавіта ў ягоным двары. Нявысветленай засталася і роля жанчыны па прозвішчы Кузняцова, якую ў той вечар бараніў Баразна. У судзе яна выступала ў якасці сведкі, але ніякіх канкрэтных паказанняў не дала. Яна запэўнівала, што Золатавых бачыць упершыню. Але ў прысутных на судзе, у тым ліку і ў міліцыянта Кавалёва, які быў разам з Баразною ў момант смерці, склалася ўражанне, што ў яе была акрэсленая роля ў арганізацыі канфлікту і што яна даўно ведае Золатавых.

Адвакаты братоў Золатавых Дазорцава А. і Урублеўская С. сцвярджалі, што «Баразна не выконваў ані грамадскага, ані грамадзянскага доўгу». Маўляў, калі б ён не кінуўся затрымліваць злачынцаў, а абышоў іх бокам па прынцыпе «мая хата з краю», то застаўся б жывы. Лжывымі выявіліся сцверджанні, што Баразна сам ударыў Міхаіла Золатава. Падчас арышту ў злачынцы не было выяўлена свежых пабояў, сінякі былі двух- і сямідзённай даўнасці.

Працэс цягнуўся амаль год. За раненне супрацоўніка міліцыі Аляксандру Золатаву прысуджаюць 8 гадоў турмы, а яго старэйшаму брату за забойства Лявона Баразны вышэйшая мера пакарання — смяротная кара.

## 8 і 5

Але гэта не ставіць кропку на справе. Золатавы падаюць апеляцыю. Адвакаткі абіраюць лінію на дыскрэдытацыю нябожчыка Баразны. Адна з іх падчас працэсу сцвярджае, што «і на сонцы ёсць плямы». Лінію адвакатак падтрымаў і суддзя Вярхоўнага Суда М.Акімаў, які дашукваўся ў характары Баразны прычын канфлікту з Золатавымі і ў выніку — смерці. Саміх злачынцаў ён называе «рэбятамі», а забойцу Баразны — Мішам.

Вярхоўны Суд адмяняе ранейшы вердыкт смяротнай кары і 8 гадоў турмы ды прысуджае Аляксандра Золатава да 5 гадоў пазбаўлення волі, а забойцу Баразны Міхаіла — да 8 гадоў. Суд перакваліфікаваў дзеянні Золатавых і нажавое раненне супрацоўніка міліцыі кваліфікаваў як «аказанне супраціўлення, звязанае з пагрозай прымянення насілля», што цягне за сабой меншы тэрмін.

Абураныя рашэннем Вярхоўнага Суда пацярпелыя — жонка Лявона Баразны Марыя, лейтэнант міліцыі Кавалёў — пішуць лісты ў газеты, Прэзідыум Вярхоўнага Савета, у Пракуратуру БССР. Пад кожнай скаргай у якасці грамадскага абвінаваўцы выступае былы (яго знялі ў 1964) рэктар БДТМІ Павел Масленнікаў.

Жонка Баразны піша ліст Машэраву. Але адказ першага сакратара быў у стылі адвакатак Золатава: маўляў, «ведаем мы гэтага Баразну».

## Сыны палкоўніка КГБ

У міжчассі выплывае цікавы факт пра сям'ю братоў Золатавых. Высвятляецца, што іх бацька не Іосіф Сталін, а палкоўнік КГБ Міхаіл Золатаў, начальнік аховы Дома ўрада ў Мінску. Яго роля ў гэтай справе невядомая дагэтуль, але столькі супадзенняў у адной гісторыі, што ёсць моцныя сумневы ў яе выпадковасці.

У Золатавых была рэальная магчымасць уцячы, калі мастак пабег у міліцыю прасіць аб дапамозе. Але, маючы нажы, яны вырашылі падпільнаваць яго ў двары ягонай жа майстэрні. Нават пасля забойства яны не выкінулі зброю, а, выцершы аб траву, паклалі ў кішэню. Гісторыя з грамадзянкай Кузняцовай выглядае як правакацыя. Штурхнуўшы яе, злачынцы відавочна хацелі справакаваць Баразну на бойку. Як можна растлумачыць факт, што забойцы схаваліся менавіта ў двары яго майстэрні і адкуль Баразна, выйшаўшы з міліцыі, ведаў, што яны хаваюцца менавіта там? Ці была і чаго магла датычыць размова Баразны з забойцам, калі Кузняцова ўцякла ад іх?

Калі гэта было забойства на замову, то злачынцы выканалі яго як умелі, без асаблівай вытанчанасці. Бо калі б Золатавым было даручана толькі напалохаць Баразну, то хапіла б інцыдэнту падчас сваркі. Чаму яны паводзілі сябе пасля забойства настолькі ўпэўнена, што нават не выкінулі нажоў?

## Яшчэ не кропка

Але і гэта яшчэ не кропка ў справе забойства Баразны. Апагеем стала вызваленне злачынцаў па амністыі неўзабаве пасля суда. Хто былі тыя Золатавы? Разбэшчаныя, крыміналізаваныя сынкі ўсёмагутнага кагэбіста, якіх тата ўрэшце ўратаваў ад смерці і турмы? Ці няўклюдныя выканаўцы злавеснага плана?

І ці выпадкова тое здарылася падчас «вялікага пагрому» дысідэнцтва ў СССР?

Забойства і хуткае вызваленне забойцаў яшчэ доўга трымала ў страху яго жонку Марыю. Яна мяняла месцы жыхарства, наймала кватарантак, баялася жыць адна з малымі дзецьмі. Сяброў Баразны, якія ўжо тады пагаворвалі пра невыпадковасць забойства, выклікалі на допыты ў КГБ. У 80-х, ужо ў часы перабудовы, былі выпадкі, калі маладым нефармалам чэкісты пагражалі лёсам Баразны.

Баразна загінуў, калі яму было 43 гады. Самы росквіт сіл для мастака і, магчыма, будучага палітычнага дзеяча. Баразна любіў казаць: «Рабі сёння. Бо калі пачнеш марыць, думаць і расказваць пра свае планы, то нічога і не будзе. Менш разважаць трэба, як табе кепска, а больш працаваць».



ПРОКУРАТУРА
Союза Советских
оциалистических республик

ПРАКУРАТУРА Беларускай ССР | ПРОКУРАТУРА Белорусской ССР

20. июня 1973 г.
№ 6-821

Гр-нам ТАНАНУШКО М., МАСЛЕННИКОВУ П.В., КОВАЛЕВУ П.Т.

гор.Минск, ул.Куйбышева, д.44, кв.56.

Ваше коллективное заявление, адресованное в Президиум Верховного Совета БССР и в копии Прокурору БССР, рассмотрено в Прокуратуре БССР.

Доводы, изложенные в заявлении о том, что Верховный суд БССР при рассмотрении кассационных жалоб осужденных Золотовых, действия Золотовых квалифицировал,как самозащиту, являются надуманными и голословными.

Верховным судом БССР приговор в отношении Золотова Михаила Михайловича по ст.100 п."б" и "в" УК БССР за убийство гр-на Борозны Л.Т. из хулиганских побуждений в связи с выполнением последним общественного долга,оставлен без изменения.

Верховный суд БССР вместе с тем признал, что братья Золотовы не совершали покушения на жизнь работника милиции, а оказали ему сопротивление, связанное с угрозой применения насилия и переквалифицировал их действия со ст.189-I УК БССР на 187-I ч.2 УК БССР, что является правильным.

Ваше заявление, как необоснованное, оставлено без удовлетворения.

Нач.отдела по надзору за рассмотрением в судах уголовных дел,старший советник юстиции

Г.МАСЛЬКО

а.в.

Забойцаў пакаралі мякка.




На свежай магіле такога маладога мастака.

In memoriam

# Уладзімір Пузыня

**Легендарнаму дудару было 72 гады.**

«Музыка, выкладчык, народны майстар... ні ў тым, ні ў гэтым ён не быў дасканалым прафесіяналам. Але ва ўсім разам — ён быў Пузыня. Пражыў жыццё сярод людзей са сваёй дудкай, — успамінае сябра рэжысёр Валер Мазынскі. — Мучыўся Беларуссю. Клаўся і ўставаў з думкай, каб усё змянілася, павярнулася ў бок беларускага. А як быў неваяўнічы, рамантык — паліў гэтым найперш сябе.

Я з ім пазнаёміўся яшчэ ў 1980-я, калі прыехаў у Мінск. Зайшоў у рэдакцыю ЛіМа, раптам чую — дудка грае ў суседнім пакоі. А гэта Валодзя ў фатографа Крука сядзеў. Тады яшчэ гукі жалейкі разрывалі сэрца...

Пузыня рабіў гэтыя дудкі і нёс іх у людзі. Хоць грошай з іх не меў. Мо што і прадаваў, але болей дарыў. Цяпер тыя яго дудкі могуць быць вельмі дарагія.

Пакуль ногі насілі — быў на ўсіх мітынгах са сваімі вялікімі дудамі. Разам з сынам, Алесем, яны ігралі. Цяпер Алесь у ЗША, у Беларусі — дачка Вольга з унукамі.

Выкладаў ва Універсітэце культуры, студэнты прыходзілі да яго ў майстэрню, глядзелі, пераймалі.

Далі яму пакой у інтэрнаце «Кулька», дык ён абсталяваў там «Беларускую хатку». Колькі народу прыходзіла! Жонка Ельцына была, амерыканцы, а колькі нашых! Валодзя ў той час расцвіў, быў шчаслівы. «Папрасілі» яго адтуль ужо ў 2000-я. За беларускае. Бо народ прыходзіў, і ясна, якія размовы ў «Хатцы» вяліся. Звольнілі з працы за «вынас інструментаў».

Ён перанёс «хатку» ў Ганалес — у жончын катэдж. Але Ганалес — ён і ёсць лес. Дудзець так гучна, як ён умеў, ужо не дазвалялася...»

Сяргей Мікулевіч



# Placebo ў Мінску



**22 верасня ў Палацы спорту** адбудзецца канцэрт брытанскага гурта Placebo. Адзін з самых цікавых гуртоў альтэрнатыўнай еўрапейскай сцэны. Пачатак а 20:00.

## ФУТБОЛ

### Беларускае класіка

**22—23 верасня** адбудзецца 25 тур чэмпіяната Беларусі па футболе.
У суботу сустракаюцца:
«Шахцёр» (Салігорск) — «Мінск»,
«Гомель» — «Нафтан» (Наваполацк),
«Тарпеда-БелАЗ» (Жодзіна) — «Брэст»,
«Нёман» (Гродна) — «Белшына» (Бабруйск).
**23 верасня** ў цэнтральнай гульні тура сустракаюцца мінскае «Дынама» і БАТЭ. Не факт, што гульню пакажуць на ТБ, так што трэба ісці на стадыён.

## ІМПРЭЗЫ

### Фестываль Юрыя Башмета

**VII Міжнародны фестываль Юрыя Башмета** пройдзе з 23 верасня да 5 кастрычніка ў Мінску. 23 верасня — урачыстае адкрыццё фестывалю. Перад публікай выступіць Літоўскі камерны аркестр.

### Талькаўскі фэст — 2012

**Свята бардаў, паэтаў, аматараў народных песень, танцаў і гульняў сёлета адбудзецца 7 кастрычніка, у нядзелю.** Збор у 12 гадзін ля клуба ў в.Талька (Пухавіцкі раён). Даехаць з Мінска можна электрычкай (кірунак — Асіповічы).

### Prezentacyja laciničnaj knihi Uladzimira Arlova

**24 vieraśnia (paniadziełak) u kniharni łohvinaŬ (pr. Niezaležnaści 37a)** adbudziecca prezentacyja knihi Uładzimira Arłova «Śvieciacca vokny dy nikoha za jimi». Z udziełam aŭtara, redaktara Valancina Akudoviča j fundatara Paŭła Bierahoviča. Pačatak a 19.00. Uvachod volny.

## КАНЦЭРТЫ

### Вялікі сольны канцэрт гурту «Нейра Дзюбель»

**26 верасня, клуб «Гудвін».** Гурт прадставіць праграму «Міхалычы — 80». Пачатак а 20:00. Білеты — 80 000 — 120 000 рублёў.

### Мікалай Аруцюнаў і Ко

**20 верасня ў клубе «Гудвін» (пр.Незалежнасці, 19)** адбудзецца эксклюзіўны канцэрт легенды расійскага блюза Мікалая Аруцюнава і Ко ў сумесным праекце «Варвары блюза».

### Авів-Квартэт

**24 верасня а 19-й у Вялікай канцэртнай зале філармоніі** — вечар камернай музыкі. Выступае «Авів-Квартэт» (Ізраіль). Прагучаць творы Л.Бетховена, А.Барадзіна, Э.Дананы.

### Apple Tea

**26 верасня а 19-й у «Графіці» (зав. Калініна, 16)** — Apple Tea.

### Трыб'ют Metallica

**30 верасня а 18-й у Re:Public (Прытыцкага, 62)** — Трыб'ют Metallica. Бяруць удзел: Aillion, Magneti[k]a, Versus7, Lost Regrets, Мікіта Шаламіцкі, Кірыл Тамашэвіч, Ян Жанчак.

### Фэст Ноз

**30 верасня а 19-й у «Лісінай нары» (Каліноўскага, 32)** — «Фэст Ноз» — Брэтонская танцавальная вечарына.

## ВЫСТАВЫ

### Міракль аб Уршулі

**Музей гісторыі тэатральнай і музычнай культуры (Музычны завулак,5) запрашае да 28 верасня** наведаць выставу партатыўных лялечных тэатраў «Міракль аб Уршулі».

### Сюжэты з жыцця

**Выстаўка мастацкага шкла і графікі Людмілы Мягковай і Уладзіміра Мурахвера «Сюжэты з жыцця» працуе да 30 верасня** ў Музеі гісторыі горада (Рэвалюцыйная, 10).

## ТЭАТРЫ

### 19 верасня

**Юнага гледача** — «Майго юнацтва крылы»
**Купалаўскі** — «Чорная панна Нясвіжа»
**Оперы і балета** — «Анюта»

### 20 верасня

**Оперы і балета** — «Травіята»
**Купалаўскі** — «Вячэра з прыдуркам»
**Юнага гледача** — «Пан міністар»

### 21 верасня

**Юнага гледача** — «Беласнежка і сем гномаў»
**Лялек** — «Шоўк»
**Оперы і балета** — «Анюта»

### 22 верасня

**Лялек** — «Чырвоны Каптурок»
**Юнага гледача** — «Беласнежка і сем гномаў»

### 23 верасня

**Лялек** — «Чароўная лямпа Аладзіна»
**Юнага гледача** — «Беласнежка і сем гномаў»
**Оперы і балета** — «Набука»

### 24 верасня

**Оперы і балета** — «Бахчысарайскі фантан»

### 25 верасня

**Беларускай драматургіі** — «Сталіца Эраўнд»
**Оперы і балета** — «Князь Ігар»
**Юнага гледача** — «Крыху пяшчоты»

### 26 верасня

**Беларускай драматургіі** — «Адамавы жарты»
**Оперы і балета** — «Трыстан і Ізольда. Шапеніяна»
**Юнага гледача** — «Аднакласнікі»

### 27 верасня

**Лялек** — «Чаму старэюць людзі?»
**Беларускай драматургіі** — «Ліфт»
**Юнага гледача** — «Аднакласнікі»

## КІНО

### «Пакінь медзведзяня для Бацькі»

Медальён (Stolen)
ЗША, 2012, каляровы, 95 хв.
**Рэжысёр:** Сайман Уэст
**Ролі выконваюць:** Нікалас Кейдж, Джош Лукас, Дэні Г'юстан, Малін Акерман
**Жанр:** Трымценнік
**Адзнака:** 5 (з 10)

Уіл Мантгомэры куляе для дачушкі плюшавых мядзведзікаў, а ў перапынку рабуе банкі. Калі Мантгомеры пасадзілі на восем гадоў, дачушка пасталела і ўзненавідзела бацьку. Бацька выйшаў і абяцаў завязаць з крымінальным мінулым. Але старыя хаўруснікі выкрадаюць дачку — патрабуюць ад героя нарабаваную долю.

Карціна «Выкрадзеная», якая ў беларускім пракаце чамусьці сталася «Медальёнам» — бадзёры трылер з лёгкімі элементамі карнавалу, псіхапатамі і Нікаласам Кейджам у ролі няшчаснага бацькі. Стужка, прадказальная для любога аматара трымценнікаў. Паўсталы з магілы псіхапат-выкрадальнік разважае пра Людовіка XV, каб з наіўнаю радасцю забіць выпадковага ворага.

Карціна, арыгінальная Масленіцай у Новым Арлеане і новым метадам выкрадання золата з банкаў, далёкая і ад гламурных блокбастараў, і ад аўтарскага нудоцця. Нечакана камічная і жывая карціна вартая прагляду на канапе, але занадта ўрачыста ісці дзеля яе ў кінатэатр.

**Андрэй Расінскі**







### Ў нескладовае

**27 верасня адбудзецца канцэрт гурта «Ў нескладовае»** ў клубе Re:Public. Інфармацыя па тэл. (029) 110-35-35.




### Сіняя кніга беларускага алкаголіка

**20 верасня адбудзецца прэзентацыя кнігі Антона Кулона** «Сіняя кніга беларускага алкаголіка». Месца правядзення — кнігарня «логвінаЎ» (праспект Незалежнасці, 37а). У імпрэзе возьмуць удзел: Аксана Спрынчан, Юрась Пацюпа, Мікола Каляскевіч, Алесь Камоцкі, Сяргей Вераціла.

# Такіх скульптур у Беларусі яшчэ не было

У мінскім скверы імя Балівара паставілі люстраны **«Калідор вечнасці»**.

Аб'ект мае выгляд люстранога пакоя, які нібы рассыпаецца. У яго можна зайсці і нават праехаць праз яго на ровары.

Паводле словаў стваральніка, маладога скульптара Алеся Кудрашова, студэнта Акадэміі мастацтваў, люстэркі мусяць даваць адчуванне бясконцасці. Назву, праўда, мастак хацеў бы змяніць на «Сінгулярнасць».

Сам праект паўстаў яшчэ ў 2010, калі «Калідор вечнасці» перамог у конкурсе на самы лепшы арт-аб'ект, абвешчаны Інстытутам імя Гётэ.

«Чалавек мусіць знаходзіцца ўсярэдзіне гэтага пакоя, — тлумачыў тады Алесь Кудрашоў. — Бо без чалавека бясконцае адлюстраванне будзе жыць сваім жыццём».

Скульптура зацікавіла мінчукоў — рэакцыя на новы твор мастацтва вельмі розная.

«Нядаўна чуў цікавую версію, — расказвае Кудрашоў. — Мінакі глядзелі на калідор і раптоўна вырашылі: гэтую штуку тут паставілі ў гонар адкрыцця базона Хігса. Мне вельмі спадабалася». «Галоўнае, каб не на дарозе стаяла», — прамаўляе сярэдніх гадоў мужчына, доўга разглядаючы люстэркі з нержавейкі.

Пакуль што «Сінгулярнасць» можа прэтэндаваць на званне новага славутага месца ў Мінску — першыя дні да калідора, які, дарэчы, знешне раствараецца на фоне сквера, людзі ішлі з усяго горада.

Дарэчы, гэта не першая праца Алеся Кудрашова, якая прыцягвае ўвагу грамадства — у сакавіку ягоны «Партрэт паэта» (незвычайны партрэт Уладзіміра Някляева і папяровая інсталяцыя) стаў адным з найцікавейшых твораў выставы маладых мастакоў «Літарт».

**Юрась Ускоў**



Сяргей Гудзілін



**iPhone 5 справа. Адрозненне мадэляў непрынцыповае, але пакупнікі зноў ламануцца па новы тэлефон.**

# На 8 міліметраў лепш

У ЗША прадстаўленая **новая версія папулярнага смартфона** iPhone.

Амерыканская кампанія Apple прэзентавала ў Сан-Франciска чарговую мадэль культавага смартфона iPhone 5, які, як заўжды, непрынцыпова адрозніваецца ад папярэдніка. Новы тэлефон важыць на 20% менш (112 грамаў) і даўжэйшы на 8,6 міліметра (123,8 мм). На ім будзе ўсталяваная абноўленая аперацыйная сістэма, палепшаны працэсар, а таксама замененая задняя крышка.

Продажы iPhone 5 пачнуцца ў Злучаных Штатах ужо 21 верасня. У залежнасці ад мадэлі ён будзе каштаваць у Амерыцы $650—850. Дарэчы, столькі ж каштавала і папярэдняя мадэль, iPhone 4S. Праўда, цяпер фанаты Apple змогуць прадаць яе максімум за $400—500.

Культ Apple ў заходніх краінах прымушае пакупнікоў ствараць чэргі каля крамаў яшчэ за суткі да пачатку продажаў. Зрэшты, у першыя дні многія перакупшчыкі змогуць зарабіць добрыя грошы на перапродажы тэлефонаў у краіны, дзе афіцыйна iPhone купіць нельга. Чакаецца, што ў Беларусі мадэль будзе прадавацца з рук за $900—1000.

**ЯМ**

**Адукацыя**

# Медыкі не супраць скарачэння канікул

Але хвалююца, што вучні шмат часу **бавяць за камп'ютарамі**.

Медыкі не пярэчаць ініцыятыве чыноўнікаў наконт скарачэння школьных канікулаў. Па словах супрацоўніцы лабараторыі праблем здароўя дзяцей і падлеткаў РНПЦ «Маці і дзіця» Ірыны Мітрашэнкі, працяглы летні адпачынак спрыяльны для здароўя, але многія дзеці на гэты час застаюцца без нагляду.

Яна назвала ідэю скараціць школьныя канікулы «неблагой» пры ўмове, што на працягу года навучальная нагрузка скароціцца і дзеці змогуць лепш размеркаваць свой працоўны дзень», будуць мець больш часу для адпачынку і хобі. Нормамі прадугледжана, што першакласнік пры пяцідзённым працоўным тыдні можа займацца 21—23 гадзіны, вучань выпускнога класа — 32—38 гадзін.

Затое медыкі занепакоеныя бескантрольным выкарыстаннем школьнікамі камп'ютараў і іншых электронных прыстасаванняў. Згодна з вынікамі анкетавання, у сярэднім старшакласнікі праводзяць за камп'ютарамі і праглядам тэлепраграм не менш як 3 гадзіны ў дзень, некаторыя — па 5-6 гадзін.

З павелічэннем часу карыстання камп'ютарамі спецыялісты звязваюць пагаршэнне зроку ў школьнікаў. За апошнія 10 гадоў захворванне на міяпію ў школьнікаў павялічылася ўдвая. Апроч таго, паводле слоў спецыяліста, «катастрафічна змяншаецца рухальная актыўнасць», што вядзе да паталогіі апорна-рухальнага апарату.

**БелаПАН**

**Навука**

# Фізікі навучыліся кіпяціць ваду без бурбалак

Навукоўцы з Мельбурнскага ўніверсітэта распрацавалі новую тэхналогію. У рамках даследавання аўтары пакрылі наначасцінкамі металічныя сферы, нагрэлі іх і апусцілі ў ваду пакаёвай тэмпературы. Дзякуючы ўзніклай воданепрымальнай уласцівасці кіпенне адбывалася без утварэння газу.

Апісаная з'ява магчымая дзякуючы таму, што пры пэўнай тэмпературы вадкасць атачаецца бар'ерам з пары, што перашкаджае выкіпанню. Практычна прымяніць тэхналогію можна пры стварэнні судоў, якія змогуць значна павялічыць хуткасць перамяшчэння па вадзе або пад яе паверхняй.

**Lenta.ru**

**Футбол**

# Браняносец стане талісманам чэмпіяната свету




Афіцыйна сімвал мундзіялю будзе зацверджаны на бліжэйшым пасяджэнні ФІФА. Такі выбар быў зроблены з мэтай звярнуць увагу на выміранне гэтага віду жывёл. Імя талісмана будзе абрана ў ходзе спецыяльнага інтэрнэт-галасавання. Чэмпіянат свету адбудзецца ў 2014 у Бразіліі.

**ЗП**

**Сцісла**

### Білеты ў кіно з'явяцца ў інтэрнэце

Савет міністраў удакладніў правілы кінаабслугоўвання. Цяпер білеты можна будзе купляць праз інтэрнэт. Апроч таго, гледачам заканадаўча забаранілі прыносіць у кінатэатры алкагольныя, слабаалкагольныя напоі і піва.

### Coca-Cola выпусціць напой у выглядзе кропель

Кампанія рыхтуецца выпусціць новы напой, які будзе не ў пляшцы ці бляшанцы, як звычайна, а ў выглядзе кропель. Некалькі кропель Dasani Drops можна будзе выціснуць ў шклянку вады, каб імгненна дадаць фруктовы водар.

### У мінскім аўтобусе пачаліся аўдыяэкскурсіі

У двух аўтобусах з дзевяці, якія працуюць на маршруце №1 «Вакзал — Вяснянка» ў Мінску, пачалі праводзіць аўдыяэкскурсіі. Аўдыязапіс уключаецца з 10.00 да 17.00 і з 20.00 да 22.00 кожны дзень. Па іншых маршрутах, у прыватнасці № 100, пакуль праводзіць экскурсіі не плануецца.

**ЯМ**



Беларуска Кацярына Бурая перамагла на конкурсе прыгажосці Miss Supranational-2012 у Варшаве. Другое месца ў Нантхаван Ванасутха з Тайланда, трэцяе — у Міхаэлы Дыглавай з Чэхіі.



PHOTO.BYMEDIA.NET

**Паралімпійцы вярнуліся з Лондана дадому. На здымку плывец Ігар Бокій, які выйграў шэсць медалёў, разам з малодшым братам Яўгенам.**



Члены камітэта Дзярждумы Расіі па фізічнай культуры, спорту і справах моладзі Аліна Кабаева і Мікалай Валуеў на пленарным пасяджэнні 11 верасня.



PHOTO.BYMEDIA.NET

Былы сяржант роты глыбіннай выведкі Сцяпан Захарчанка дэзерціраваў з войска, уцёкшы ў Літву. Там ён папрасіў палітычнага прытулку. У савецкія часы гэта была справа ўзроўню ЦК КПСС.

## Анекдоты

* * *

Штораз, убачыўшы ў небе чараду жураўоў, Шчірліц ціха пра сябе мацюкаўся, але выцягваўся смірна і прыкладаў руку да галавы.

* * *

У выніку зліцця «Советской Белоруссіі» і яшчэ чатырох дзяржаўных газет улады збіраюцца стварыць «адну вялікую галоўную газету краіны». Трэба яшчэ дадаць — для аднаго вялікага галоўнага чытача.

* * *

— Алё, гэта сэкс па тэлефоне?

— Не, гэта падатковая, але мы таксама ўмеем!

* * *

Самая вялікая розніца паміж беларускімі афіцыйнымі тэлеканаламі — гэта падача прагнозаў надвор'я.

* * *

Беларуская секта — адвентысты 500-га даляра.

* * *

Іваноўскі слаба кеміў у матэматыцы. І ён спісаў у Багдановіч.

Парадокс сітуацыі ў тым, што Багдановіч атрымала тры, а Іваноўскі — пяць.

Але калі ўлічыць, што гаворка ідзе пра гадавыя бухгалтарскія справаздачы салідной кампаніі, то турэмныя тэрміны аказаліся цалкам прымальнымі.

* * *

Касета з фільмам Чака Нарыса звалілася з 18-га паверха і не атрымала ніводнай драпіны.

## «НН» сто гадоў з вамі

**Мінск.** Архірэйска-губернатарская партыя выстаўляе кандыдатамі ў члены Гас.Думы ад горада Мінска — павятовага прэдвадзіцеля дваранства Сорнева і прадседацеля царкоўна-археалагічнага камітэта Снітко.

**«НН». №35. 1912.**

**Дзяржаўны курс на аўтарытарнае кіраванне і ўмацаванне суверэнітэту нязменны** — такая галоўная выснова з прэс-канферэнцыі Аляксандра Лукашэнкі. У той жа час рыторыка лагаднее, Беларусь болей не змагаецца з Захадам. Краіна гатовая карыстацца падтрымкай «для прывязкі рубля да еўра або даляра». Магчымасцю памілавання Івашкевіча і Маркевіча не пацікавіўся ніхто з журналістаў.

**«НН». №35. 2002.**

Наша Ніва
незалежная газета
заснаваная ў 1906, адноўленая ў 1991
галоўныя рэдактары «Нашай Нівы»:
З.Вольскі (1906), А.Уласаў (1906—1914), Янка Купала (1914—1915), А.Луцкевіч, У.Знамяроўскі (1920), С.Дубавец (1991—2000).

сакратарка рэдакцыі — Наста Бакшанская
шэф-рэдактар — Андрэй Дынько
намеснік галоўнага рэдактара — Зміцер Панкавец
галоўны рэдактар — Андрэй Генадзевіч Скурко
заснавальнік — Прыватнае прадпрыемства «Суродзічы»
выдавец — Прыватнае прадпрыемства «Суродзічы»

АДРАС ДЛЯ ДОПІСАЎ:
220050, Мінск, а/с 537
Tel/fax: (017) 284-73-29, 8-029-613-32-32, 8-029-707-73-29.
E-mail: nn@nn.by
On-line: www.nn.by

**Падпісны індэкс:**
індывідуальны — **63125**
для прадпрыемстваў — **631252**


8 палос фарматам А2, 4 друк. арк. Друкарня Рэспубліканскае ўнітарнае прадпрыемства «Выдавецтва «Беларускі Дом друку». ЛП №02330/0494179 ад 03.04.2009. Пр. Незалежнасці, 79, 220013, Мінск. Рэдакцыя не нясе адказнасці за змест рэкламных абвестак. Пасведчанне аб рэгістрацыі перыядычнага выдання №248 ад 22 чэрвеня 2009 г., выдадзенае Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь. Юрыдычны адрас: 220101, г. Мінск, вул. Асаналіева, 15-128. Р/р 3012206280014 у МГД ААТ «Белінвестбанк», Мінск, код 764.

Наклад 8030. Газета выдаецца 48 разоў на год.
Нумар падпісаны ў друк 23.00 18.09.2012.
Замова №4035.
Рэдакцыйны адрас: Асаналіева 15-128.
Цана дамоўная.
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
ISSN 1819-1614
9 771819 161008 12035